*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
3
МАЯ
1991 г.
№ 18 (3584)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Завяршыўся рэспубліканскі конкурс на помнік Францішку Скарыне ў Мінску. Журы прызнала лепшай скульптуру А. Дранца.

# ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ШЛЯХАМ

Іншы раз, калі нешта цяжка выказаць сваімі словамі, звяртаешся да паэтычных радкоў. 26 красавіка, ідучы з калонаю «Чарнобыльскага шляху», я падумаў, што агульнаму настрою, які сёння збірае людзей пад бел-чырвона-белы сцяг, адпавядае песня Сержука Сокалава-Воюша:

**Хай па лязе мяча**
**Наш пралягае шлях,**
**Штодня губляем мы,**
**Але штодня знаходзім,**
**Змяняецца адчай**
**Адвагай у вачах,**
**І той, хто быў нямы,**
**Сягоння спеў заводзіць.**

Толькі пачаўшы складаць мартыралог Беларусі, нават не надта паглыбляючыся ў стагоддзі, засяроджваючы ўвагу на Курапатах, Хатыні і Чарнобылі, — мы жахнуліся. Яшчэ страшней думаць (але думаць трэба!), чым адгукнецца 26 красавіка 1986 года для нашых нашчадкаў. І каб абараніць сваё жыццё і будучыню нашых дзяцей, мы павінны вярнуць страчанае — беларускую дзяржаву, беларускую веру, беларускую мову. Калі не будзе гэтага — не будзе і нас. На шляху Адраджэння нас яднае чорная чарнобыльская харугва і бел-чырвона-белы сцяг. Знак бяды і знак перамогі.

У калоне «Чарнобыльскага шляху» ішлі беларускія навукоўцы, якія яшчэ ўвесну 1986 года не пабаяліся сказаць праўду аб трагедыі. Ішлі і мастакі і літаратары. У кастрычніку 1988 года ім, арганізатарам мітынгу-рэквіема «Дзяды» давялося сутыкнуцца з «перабудовай» у выглядзе гумавых дубінак і з пахам «чаромхі». І што, відаць, найбольш важна, — ішлі рабочыя мінскіх заводаў, якія толькі-толькі прыпынілі страйк, каб распачаць яго зноў у большых маштабах 21 мая. Рабочы клас, ад імя якога так любіць выступаць партакратыя, вярнуў Беларусі павагу суседзяў, амаль пахаваную вынікамі «рэферэндуму». Вось бы зараз правесці рэферэндум аб «сацыялістычным выбары» і «абноўленым Саюзе», вось бы зараз завітаў Прэзідэнт у Мінск!

На чале шэсця неслі абраз Божай Маці ахвяр Чарнобыля. Ішлі моўчкі, гарэлі свечкі. На пляцы Волі шэсце спынілася. На тым месцы, дзе стаяла Свята-духаўская царква, знішчаная ваяўнічымі атэістамі ў 30-я гады, вакол абраза паўсталі святары хрысціянскіх канфесій Беларусі—праваслаўнай, уніяцкай, каталіцкай. Прагучалі малітвы за беларускі народ. Са словам аб чарнобыльскай бядзе, якую беларусы могуць пераадолець толькі пабудаваўшы незалежную дзяржаву, да людзей звярнуліся Алесь Марачкін, Уладзімір Арлоў, Алесь Адамовіч.

Далей шэсце рушыла па вуліцы Горкага да пляца Бангалор. У парку побач з пляцам быў урачыста адкрыты памятны знак ліквідатарам — ахвярам Чарнобыля. Зноў гучалі малітвы хрысціян, а таксама іудзеяў і мусульман.

Наступным днём у Доме літаратара праходзіў «Народны трыбунал». Ён меў на мэце разгледзець, наколькі эфектыўнымі былі дзяржаўныя захады па пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Калі хто з прысутных на пасяджэнні трыбунала дагэтуль яшчэ меў нейкія ілюзіі адносна магчымасці паразумення з Цэнтрам па чарнобыльскім пытанні, дык ён мусіў з гэтымі ілюзіямі развітацца. Выступаючыя навукоўцы, журналісты, народныя дэпутаты Я. Канапля, Я. Новікаў, С. Навумчык, І. Кісялёва і іншыя пераканаўча даводзілі, што той Цэнтр, па загаду якога авіяцыя, ратуючы Маскву, асаджала на Беларусь чарнобыльскія хмары, сёння праз сваю крэатуру ў МАГАТЭ запэўнівае сусветнае грамадства, што на Беларусі ўсё добра. Атрымліваецца, што беларусы, спекулюючы на Чарнобылі, жадаюць атрымаць ад Захада як мага болей грошай... Між тым, менавіта Цэнтр робіць на нашай бядзе неблагі бізнес, бо Масква — манапольны уладальнік той інфармацыі, што збіраюць у зоне (зона цяпер ці не ўся Беларусь) беларускія навукоўцы. Красамоўныя факты: японцы, каб атрымаць доступ да навуковай інфармацыі, сабранай на Беларусі, фінансуюць будаўніцтва навуковага цэнтра... у Обнінску.

Зразумела, прынятая на «Народным трыбунале» Заява юрыдычнай сілы не мае. Пакуль што не мае. Але ж справа і не зводзіцца да чыста юрыдычных аспектаў злачынства веку. Важней маральнае асуджэнне канкрэтных вінаўнікаў трагедыі на ўсіх паверхах улады. А разам з імі — і той сацыяльнай сістэмы, якой яны служаць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**










**АДГАЛОСКІ**

## Ініцыятыва БАПЦ у ЗША

У № 4 (красавік г. г.) прэс-бюлетэню «Царкоўны пасланец», які выдае парафіяльная рада Кафедральнага сабору св. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (Бруклін, штат Нью-Йорк), паведамляецца аб ініцыятыве кіраўніцтва БАПЦ па мацаванні духоўнай лучнасці з вернікамі і праваслаўным духавенствам на Бацькаўшчыне. У прыватнасці, Кансісторыя БАПЦ заклікае ўсіх вернікаў БАПЦ і наогул беларускую эміграцыю перагледзець свае кніжныя паліцы і ахвяраваць выдадзеныя на эміграцыі беларускія рэлігійныя ды іншыя кнігі і часопісы на перасылку ў Беларусь; узяць абавязак перапісвацца з ахвочымі да лучнасці рэлігійна і нацыянальна свядомымі беларусамі на Бацькаўшчыне; дапамагчы Кансісторыі БАПЦ наладзіць выданне газеты «Голас Царквы» і патрэбных для вернікаў на Беларусі рэлігійных і малітоўных кніг. «З Божае Ласкі нам пашчасціла жыць у адказную пару, калі можа змяніцца доля нашага беларускага народа і ўсяго чалавецтва. Не адварочваймася ж і не ўцякайма ад гэтай адказнасці... Няхай ніхто не застанецца збоку... у гэтай вялікай рабоце».

## Шуміць «7 дней»

Нават не ведаю, пад якім загалоўкам паведаміў бы аб прыгаданай ініцыятыве БАПЦ штотыднёвік «7 дней» (выданне БЕЛТА), але да адраджэнскіх намаганняў уласна на Беларусі гэтая газета ставіцца, мякка кажучы, іранічна. У матэрыяле з характэрнай назвай «Шумим, братцы, шумим!» (№15), які падрыхтавала Г. Васілеўская, пададзены вынятк і з выступленняў народных дэпутатаў БССР, работнікаў народнай асветы, дзеячаў гарадскога бацькоўскага камітэта г. Мінска па праблемах стварэння беларуска-

# ТАКІЯ ДНІ НАСТАЛІ...



«А хто там ідзе?» Радкі купалаўскага верша нечакана прагучалі на мітынгу з вуснаў жанчыны з трактарнага, члена заводскага стачкама. Сапраўды: хто? «Экстрэмісты», «дэструктыўныя элементы»? (У час выхаду ў эфір лідэраў стачкамаў, дарэчы, можна было пераканацца, што гэтыя «элементы» — сімпатычныя, разумныя, хоць і не вельмі спрактыкаваныя ў палітыцы хлопцы). Ці — «яго вялікасць рабочы клас», «бясстрашныя рыцары»?

Але ж ні праклёны, ні захопленасць сэнсу справы не прасвятляюць. Таксама, як вершы класікаў і сучаснікаў, спевы бардаў, што гучалі на мітынгах у паўзах паміж выступленнямі далёка не галоўнае. Між іншым, эфектных, але пустых прамоў, імправізацый на палітычныя тэмы рабочыя не прымалі.

Не дзеля знешняга эфекту пракрочылі яны па Ленінскім праспекце на плошчу Перамогі. (Хоць узорны парадак, з якім рухалася агульная калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі, прызнацца, уражвала). Не да эфектаў ім было, як і іх сябрам у Оршы, якія перакрылі чыгуначны рух. Мінскія рабочыя хацелі звярнуцца да іх праз эфір — засцерагчы ад сутыкненняў з АМАПам, ад непапраўнага. Эфір не далі. Там, па той бок «барыкад» — таксама свая салідарнасць: «Сацыялістычная айчына ў небяспецы!»

Рабочым кажуць, што забастоўкі нясуць шкоду вытворчасці, а значыць — ім самім, вядуць да эканамічнага хаосу, у бездань. Ды яны разумеюць гэта не горш, а можа, і лепш за многіх народных дэпутатаў. Але іншага выйсця на сёння не бачаць, бо не вераць (і не без падстаў) абяцанням улад кардынальна палепшыць стан спраў адміністрацыйнымі метадамі.

Яшчэ ўчора прыціснутыя цяжкімі ўмовамі працы, бясконцымі чэргамі, бессэнсоўнасцю існавання, раз'яднаныя, сёння рабочыя сабраліся разам. І не дзеля першамайскай паказной дэманстрацыі лаяльнасці уладам, а дзеля ўласных інтарэсаў і абароны чалавечай годнасці выйшлі яны на вуліцы. Канечне, сабрацца на мітынг прасцей, чым выпрацаваць сапраўднае адзінства, агульную праграму дзеянняў. Але ўсяго за некалькі дзён палітычная рэальнасць, жорсткае процістаянне літаральна падштурхнулі рабочых да неабходнасці стварэння незалежных прафсаюзаў. Гэтая ідэя яўна знаходзіць усё большую падтрымку. Зразумела, ад ідэі да яе рэалізацыі — шлях няблізкі. Але як сказала тая жанчына з трактарнага, што чытала верш Купалы (на жаль, не запісаў яе прозвішча), — за гэтыя дні мы сталі іншымі, і такімі, як раней, не будзем ужо ніколі.

Напэўна, гэта так.

**Віталь ТАРАС.**

Фота У. КРУКА, А. КЛЕШЧУКА, А. КАЛЯДЫ, У. САПАГОВА і БЕЛТА.








РЭПЛІКА ЧЫТАЧА

## «Ветэрану БССР» ад проста ветэрана

Мой сусед, прыхільнік нядаўна створанай Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, паказаў мне нумар газеты «Звязда» і спытаўся: «Ці ведаеш ты такога вучонага—А. Залескага?.. Вунь як падпісаўся пад сваім артыкулам: «ветэран Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, доктар гістарычных навук, прафесар...» Я збіраўся ўступаць у БСДГ, там шмат добрых хлопцаў, а гэты Залескі пра іх саміх і іхнюю партыю такога нагаварыў, што аж валасы дыбам становяцца. Ніводнага добрага слова, адзін дзёгаць ды кампрамат. Што гэта за вучоны такі, што гэта за «ветэран БССР»?

Я моўчкі ўзяў газету, прабег загаловак, «Здзіўляючая дэзінфармацыя», першыя і апошнія радкі, подпіс пад артыкулам... Тут усё адпавядала адно другому. Ніякіх сумненняў не заставалася. Гэта быў ён, сумна вядомы Адам (па бацьку Іосіфавіч) Залескі. Жывы Курылка!..

**Мой сусед правільна падмеціў, што сапраўдны доктар навук і прафесар не можа такое пісаць. Дык то ж сапраўдны, а гэта ж «псеўда»: псеўданавуковец, псеўдапрафесар. М. А. Ткачова ён папракае ў тым, што той нібыта «трывала зарэкамендаваў сябе фальсіфікацыяй гісторыі». На справе ж менавіта такія «гісторыкі», як Абэцэдарскі, Залескі і да іх падобныя, фальсіфікавалі і працягваюць, як мы бачым, фальсіфікаваць мінулае Беларусі. Вось і на гэты раз не можа ніяк Адам Іосіфавіч Залескі змірыцца з тым фактам, што ў гісторыі беларускай палітычнай думкі займалі адпаведнае месца і сацыял-дэмакратычныя ідэі. З аднаго боку, ён мусіць прызнаць, што яны ўзнікалі і ўвасабляліся ў пэўныя партыі, а з другога — тут жа спахопліваецца і пачынае пракручваць у сто першы раз усё тую ж, сцёртую да гнюсавасці пласцінку— наконт «рэакцыйных колаў», іх супрацоўніцтва з польскімі акупантамі і германскім імперыялізмам... Ну а далей, з незвычайным спрытам, выводзіць проста з тых рэакцыйных, з тых дробна-буйнабуржуазных колаў сённяшніх сацыял-дэмакратаў, ініцыятараў стварэння БСДГ. Вось так. І яшчэ ён іх называе «няўдзячнымі сынамі сваёй сацыялістычнай Радзімы», «пярэваратнямі (мова «ветэрана... доктара... прафесара»!).**

Сапраўды, трэба быць няўдзячным сынам сваёй Радзімы, каб лічыць сябе яе гісторыкам, спецыялізавацца на яе гістарычным мінулым, карміцца (атрымліваць доктарска-прафесарскую зарплату) за кошт гэтага, і ў той жа час так не ўспрымаць, так ненавідзець і з такой зацятасцю фальсіфікаваць нашу гісторыю, як гэта робіць А. Залескі. Гэта нешта заалагічнае, гэта нават нешта горшае, чым чорная няўдзячнасць. Дарэчы, тут трэба шукаць і сапраўдных пярэваратняў...

**Я. СЯМАШКА,**
ветэран вайны і працы,
былы выкладчык гісторыі.

моўных школ і класаў. На больш вартасны, аналітычны досвед становішча беларускай школы «праблемны» штотыднёвік, відаць, не здольны. Затое чапляць «бірачкі» — калі ласка. Можа, знаўцам і рупліўцам беларускай культуры і даравальны пэўны нацыянальны сарказм. Але бюлетэню, выдаванаму не на дзяржаўнай мове, у гэтым сэнсе, мяркую, можна было б і прамаўчаць. Ці — «не шумець»?

## Не зважаючы на Беларусь

Да болю робіцца крыўдна за навуковую годнасць дактароў навук, калі чытаеш гістарычныя опусы накшталт артыкула літоўскай вучонай Р. Жэпкайтэ «Литва земель никому не должна» (грамадска-палітычны штотыднёвік «Голос Литвы» № 12 за г. г.). Аўтарка разважае аб літоўска-польскіх межах, скарыстоўваючы... тую сумна вядомую «карту», на якой выяўлена мяжа з Беларуссю блізу Пастаў, Маладзечна, Шчучына, Гродна. Спрабуючы абгрунтаваць чарговыя межавыя прэтэнзіі (на гэты раз ужо да Польшчы), літоўская даследчыца гаворыць аб згаданай мяжы з Беларуссю, што яна «амаль адпавядае этнічнай тэрыторыі, на якой у XIII ст. было створана ядро літоўскай дзяржавы». Цяжка зразумець, што мае на ўвазе Р. Жэпкайтэ, калі гаворыць «ядро» дзяржавы, але зусім пэўна бачыцца атаясамленне «створанай у XIII ст.» літоўскай дзяржавы з сучаснай Літоўскай Рэспублікай.

Крыўдна, калі суседні народ, «з'яднаны прагай волі», з'яднаны яшчэ і такімі адмысловымі поглядамі на гістарычнае мінулае. Цяперашні Старшыня Вярхоўнага Савета Літвы сп. В. Ландсбергіс у красавіку, напрыклад, заявіў, што для яго, маўляў, існуе толькі СССР, а на Беларусь літоўскае кіраўніцтва не зважае. Такія вось, зусім не бяскрыўдныя «гульні ў карты»...

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# кс. Уладас ПЯТРАЙЦІС:

# «ПАСЛУХАЙЦЕ СВАЮ ДУШУ»

ДАКЛАДНА НЕ ПАМЯТАЮ, але, здаецца, ці не ўпершыню ў маёй свядомасці адбілася назва літоўскага горада Каўнаса пасля трагедыі, якая разыгралася ў ім. У цэнтры горада палыхнула жахлівае вогнішча, на якім спаліў сябе малады літовец Ромас Каланта. Што гэта было — адчай? пратэст? выклік?..

Летась мне пашчасціла пазнаёміцца з літоўцам, чыю душу апяклі іскры таго жахлівага вогнішча. Тады яшчэ юнак, вучань адной з каўнаскіх школ Уладас Пятрайціс напісаў верш. Верш-нязгоду з тым, што адбываецца на радзіме. Верш-боль. Верш-пратэст.

**Нешматлікая прэса, якая ў той час заўважыла жывое вогнішча ў Каўнасе, абазвала Ромаса коратка — фанатыкам. «Антысавецкім элементам, ахвярай рэлігійнага фанатызму» назвалі пазней і аўтара верша. Праўда, не ў друку, а ў школьнай характарыстыцы: верш прачыталі тыя, хто па абавязку службы зачытваліся падобнымі творамі. І ацанілі. Цяжар выхавання лёг на плечы настаўнікаў. Выхоўвалі. Стараліся. Неяк на Вялікдзень, пасля таго, як Уладас разам з аднакласнікамі ўмудрыліся адбыць усяночную, праспяваць «Алілуя» ўваскросламу Збавіцелю ды паспець яшчэ раніцай на нядзельнік, адзін з «сеяцеляў разумнага, добрага, вечнага» выказаўся ў класе адназначна: «Мне ў вашым класе смярдзіць. Буржуазным нацыяналізмам». Уладас разам з сябрамі моўчкі падняліся з-за партаў і выйшлі з класа, пашкадаваўшы тонкі нюх «сеяцеля»...**

А цяпер, шаноўны чытач, паглядзі на здымак. Перад табою — аўтар таго верша, Уладас Пятрайціс, ксёндз Мёрскага касцёла, што на Віцебшчыне. Прадбачу, як нехта з пільных барацьбітоў з рэлігіяй падумае: «Вось да чаго даводзіць фанатызм!» А хтосьці, магчыма, падумае і гэтак: «Пабунтаваў чалавек у юнацтве, пасля павініўся, супакоіўся і пачаў другіх навучаць пакорлівасці і паслушэнству». І абодва памыляцца, святар Пятрайціс захаваў у сабе свабодалюбівы дух юнака Уладаса, нежаданне мірыцца з несправядлівасцю.

Можа, таму сябры Полацкай суполкі Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» летась менавіта яго запрасілі з каталіцкіх святароў асвяціць на Дзяды крыж памяці ахвярам сталінізму, на Полаччыне?

ШТО АДЧУВАЕ чалавек, калі ўпершыню з вуснаў святара чуе словы малітвы на роднай мове? І не ў дзяцінстве, а пасля таго, як ужо столькі думана-перадумана над пакутніцкім лёсам Бацькаўшчыны? Пасля таго, як прыйшло разуменне вялікай несправядлівасці, калі беларусы, хрысцячы сваіх дзяцей, выпраўляючы сваіх родных і блізкіх у вечнасць, у хвіліны радасці, бяды, адчаю, вымушаны, як тыя жабракі, пазычаць чужыя словы, каб звярнуцца імі да Бога? Што адчувае? Напэўна, тое ж самае — «нарэшце і ў нас па-людску». Мабыць, і тады, на Дзяды, некаторыя падзівіліся, што ксёндз вымаўляе словы малітвы не па-польску, а па-беларуску. Пасля айцец Уладас сказаў кароткую прамову, зноў жа па-беларуску, з лёгкім прыбалтыйскім маўленнем. Не адзін жыхар старажытнага Полацка вінавата апусціў долу вочы, калі чуў пранікнёныя словы ксяндза пра меладычную беларускую мову...

Калі і дзе нарадзілася павага да яе ў літоўца Пятрайціса?

Упершыню беларускія словы ён пачуў не ў Мёрах, а яшчэ ў Літве,калі служыў захрыстыянам у Жаслейскім касцёле. З вуснаў прыбіральшчыцы Зосі. Ад яе ж упершыню пачуў на незнаёмай тады мове «Матачку Божую». І зразумеў, што, калі жыве на свеце народ, значыць, павінна жыць і ягоная мова, на якой і трэба яму звяртацца да Бога.

Не думаў тады малады захрыстыян, што праз колькі гадоў яму самому давядзецца пераконваць у гэтым сваіх парафіян-беларусаў, якіх у свой час ахрысцілі ў касцёле і тым самым павялічылі патрыётаў пальшчызны. Пакрывіла б душою, калі б сказала, што вельмі ўзрадаваліся ўсе ягоныя парафіяне, пачуўшы, што па нядзелях раніцай імша будзе адпраўляцца па-беларуску. Пэўна ж, не адна кабета, з тых, што яшчэ за «польскім часам» вучыла «Кто ты естэсь? — Поляк малы», падзівілася з навацый ксяндза. Падзівілася, але наўрад ці задумалася, чаму літовец пераконвае іх у тым, пра што яны павінны былі казаць яму самі.

А праз колькі часу на хорах Мёрскага касцёла загучалі і беларускія спевы. Чыстыя дзявочыя галасы ўзляцелі пад скляпенні касцёла:

**Мы хочам Бога ў нашым краі,**
**Між беларускіх бедных стрэх.**
**У нашай мове і звычаі**
**Не можа мецi месца грэх.**

Так пяць гадоў назад нарадзіўся ў Мёрах новы творчы калектыў — касцельны хор дзяўчат. Пра ягоныя рэпетыцыі, выступленні, пра тое, як шыліся ўборы для спявачак, як падбіраўся рэпертуар, ніхто ў канцылярскіх справаздачах птушачак не ставіў. Узнагародай былі прасветленыя твары прыхаджан на імшы.

**Песні, вершы — духоўныя і свецкія — гучаць не толькі на касцельных службах, а і ў калядную, навагоднюю ночы каля касцёла, у... вандроўках, арганізаваных таксама святаром. «Ксёндз у вандроўцы? —падзівіцца хтосьці. — З начлегам у палатцы? З паходным пайком? Каля вечаровага вогнішча?». Так, і жарты, і смех, і начлег у палатцы, і ўспаміны пра тое, хто што перажыў-пабачыў. Праўда, напачатку ў аўтабазе нізавошта не хацелі выдзяляць тыя аўтобусы, якія заказваў касцёл для вандроўкі, напрыклад, у Літву, альбо яшчэ некуды. Там, відаць, вырашылі, што зусім неабавязкова «цемрашальнай установе» арганізоўваць падобныя мерапрыемствы. Давялося ісці на хітрасць. Трое прыхаджан ішлі ў тую ж самую аўтабазу і прасілі аўтобусы — быццам бы для вяселляў. Дазвалялі. І ніхто не пацікавіўся, чаму такое супадзенне — усе тыя вяселлі ў Літве.**

**Айцец Уладас успамінае тыя вымушаныя хітрыкі з жартамі. Не трымае крыўды і на празмерна руплівых абаронцаў тутэйшых людзей ад «рэлігійнага дурману». А з імі давялося сутыкнуцца не раз і не два. Як, да прыкладу, было растлумачыць, чаму ён, пазваны паспавядаць адну бабулю ў дальняй вёсцы, не адмовіў і астатнім бабулькам, чые ногі ўжо не могуць ісці за няблізкі свет у касцёл? Іх было 17, а па інструкцыях (не ведаю, якім мудрацом пісаных) ксёндз меў права пры выездзе спавядаць не больш двух чалавек. Словам, зарабіў тады парушальнік закону У. Пятрайціс 50 рублёў штрафу. Яму б паслухацца, а «парушальнік» аказаўся цяжкім да выпраўлення і праз дзень зноў не змог адмовіць бабулькам —толькі ўжо ў другой вёсцы. І зноў — штраф...**

ЯК РАЗУМЕЕ айцец Уладас высокую місію пасрэдніка паміж Богам і людзьмі, якую ён усклаў на свае плечы?

У сваіх казаннях, размовах, дачыненнях з парафіянамі ён таксама выбіваецца са звыклых уяўленняў пра святара. Хутчэй за ўсё, напачатку прыхаджанам дзіўнавата было чуць, як ксёндз, прамаўляючы з амбона, дазваляе сабе жарты, нейкія вясёлыя прыклады з жыцця, што выклікалі міжвольныя ўсмешкі на тварах — насуперак імкненню паводзіць сябе, як прынята ў храмах. Усмешкі, жарты пад час службы?

**—А чаму не? — шчырае здзіўленне на твары айца Уладаса. — Чаму чалавек, які прыйшоў у храм, абавязкова павінен нацягваць на сябе сумную маску, як сведчанне найшчырэйшай веры ў Бога? Хіба ўжо адно тое, што мы верым у Бога — не найвышэйшая радасць, не вера ў дабро, справядлівасць? Нам чамусьці здаецца, што шчыры вернік абавязкова павінен ліць слёзы альбо сентыментальна вохкаць пра сваю адданасць Усявышняму. Што, ад гэтага ён стане духоўна багацейшым? Палепшае? Ці, можа, яму не захочацца болей крыўдзіць блізкіх? Ды не ж! Ёсць людзі, якіх быццам і не папракнеш у тым, што яны мала вераць (ды вера і не вымяраецца нейкімі порцыямі, яна альбо ёсць, альбо яе няма), але ад іхніх прэсных, застылых выразаў на тварах робіцца часам няўтульна. Некаторыя ва ўсім, што робяць, бачаць нейкі свой абавязак. Быццам пад прымусам яны не чыняць зло, рэгулярна ходзяць у касцёл, кладуць афяру, нават калі моляцца, і то адчуваюць гэты, няхай сабе і добраахвотны, але прымус. Гэткіх людзей можна толькі пашкадаваць, бо ў іхніх душах няма Бога. Ёсць хімера Бога, а не сам Ён... І таму я — за тое, каб у нашым касцёле і душы людзей раскрываліся да добрага, і іхнія твары свіціліся радасцю — звычайнай, чалавечай.**

Неяк у час казані айцец Уладас звярнуўся да прыхаджан з прапановай правесці эксперымент — заўсміхацца і не спяшацца мяняць выраз твару. І гэтак — тыдзень. «Кожную раніцу, калі нават і не надта атрымліваецца, паспрабуйце сілай расцягнуць вусны, не спяшайцеся выліваць з сябе злосць, замяніце яе на той час усмешкай», — прасіў святар сваіх прыхаджан. І запэўніваў: «Не веру, што не адгукнецца ваша дабрыня ў сэрцах вашых блізкіх, што не прымусіць і іх, няхай сабе на той час, але забыцца на свае крыўды».

...Дом айца Уладаса ў Мёрах прыкметны. І не толькі тым, што ён двухпавярховы і сваёй дагледжанасцю нагадвае дамы якога-небудзь літоўскага мястэчка альбо прыгарада. Адметным яго робіць і мноства кветак у гародчыку, вакол дома, на вокнах. А чалавека, які ўпершыню адчыняе сюды дзверы, прымушаюць запыніцца, прыслухацца ды ў чарговы раз падзівіцца птушыныя галасы, якімі напоўнены дом. Усё гэта патрабуе дагляду, дасведчанасці і, вядома, сапраўднай улюбёнасці ва ўсё жывое. «А таксама пільнасці, — жартуе айцец Уладас. — Бо калі раптам зазірне да птушак чалавек з нядобрым сэрцам — чакай страт». Нярэдка дзверы гэтага дома адчыняюць мясцовыя малыя гарэзы, просяцца паглядзець птушак.

—А як жа «нядобрыя» сэрцы? — пытаюся ў гаспадара.

—А ў дзяцей іх не бывае, — коратка сцвярджае ён. — Гэта толькі ў дарослых. А ў дзяцей ва ўсіх добрыя і вочы, і сэрцы, і душы. Яны і чужы боль вастрэй адчуваюць. Вы заўважце: дзіця заўсёды падыдзе да таго, хто плача, у каго бяда. А дарослыя? Усё болей міма...



— Ойча, а вы любіце людзей?—нечакана вырываецца ў мяне, і я амаль прадбачу сцвярджальны адказ, бо як жа інакш можа адказаць ксёндз? Але ў чарговы раз разумею, як «цесна» майму суразмоўцу ў стэрэатыпах.

— Я хачу іх любіць, але, на жаль, не магу сказаць, што гэта заўсёды ў мяне атрымліваецца, — кажа ён. —Ва ўсіх нас назапасілася столькі злосці, зайздрасці, абыякавасці да ўсяго, што не тычыцца асабіста нас! Часта думаю, што мне лягчэй любіць апівоху, на якога грамадства махнула рукой. Ён лічыць за радасць пагаварыць з намі, а мы, упэўненыя, добрапрыстойныя з выгляду, спакойна мінаем яго і лічым грэшнікам. Найперш, вядома ж, яго, а не саміх сябе... Да чалавека, які спатыкнуўся некалі ў жыцці, заўсёды хочацца падысці, сказаць яму добрае слова, падбадзёрыць. Веру, што такое слова не можа не крануць добрай струны. І ці не зашмат мы з такой лёгкасцю выкрэсліваем з жыцця п'яніц, прастытутак, наркаманаў... А хіба, скажыце, чалавек, які дзеля кар'еры прадае сваё «я »— не духоўная прастытутка? Дык чаму я павінен любіць яго болей, чым тую, якая ў свой час кінулася ў бездань распусты, а цяпер, можа, і не ведае, як выбрацца з яе, бо ніхто не хоча кінуць ёй выратавальны круг?

ВЕДАЮ, што ў юнацтве Уладас Пятрайціс марыў стаць лекарам. Мабыць, ён быў бы сумленным і добрым медыкам і, мабыць, не адзін ягоны пацыент сказаў бы яму шчырае дзякуй за выратаванне. Але не сумняваюся і ў тым, што шлях, па якім пайшоў ён, — гэта, як спявае ў адной са сваіх песень Сяржук Сокалаў-Воюш, «нялёгкі шлях, але найлепшы самы». Бо не адно сэрца супакоіў ксёндз Уладас Пятрайціс, не аднаго чалавека асцярог ад неразумнага ўчынку, не адну душу абагрэў цяплом і дабрынёй свайго сэрца.

Калі я вырашыла расказаць пра святара Пятрайціса людзям, я зразумела і тое, што трэба, каб людзі не толькі даведаліся пра яго, але і пачулі ягонае слова. І я прапанавала айцу Уладасу ўявіць, што перад ім сёння аўдыторыя значна шырэйшая, чым звычайна, — чытачы тыднёвіка «Літаратура і мастацтва»... Што б сказаў ён ім, чаго пажадаў?

**— Мяне вельмі непакоіць, што ўсе мы цяпер жывём нібы пад знакам страху, — паволі, роздумна сказаў айцец Уладас Пятрайціс. — Страх за жыццё, дзяцей, будучае, за наш дабрабыт... І вельмі часта гэтае пачуццё нібы паралізуе волю, прагу жыцця, дабро ў сэрцах, жаданне ўдасканалення.**

**Быццам згубіўся асноўны жыццёвы стрыжань... Мы павінны знайсці яго. А ім можа быць толькі адчуванне Бога ў душы, высокая духоўнасць на аснове ведання рэлігіі, культурнай і духоўнай спадчыны продкаў. Менавіта яна, духоўнасць, можа даць нам тое апірышча, на якім будзе будавацца наша далейшае жыццё—ужо без страху.**

**Я разумею, гэта цяжка, вакол нас столькі гора і няшчасцяў. Беларусь яны не абмінаюць. Але ж ёсць і дабро! Трэба толькі мець жаданне бачыць яго — у малым і вялікім. І імкнуцца самім тварыць дабро, не абстрактнае, якое і людзей мала грэе, і нас саміх. Аднупіцца грашыма ад чарнобыльскай бяды не так ужо і стратна для многіх з нас — калі ёсць грошы. А давайце паспрабуем, напрыклад, працягнуць рукі і сэрцы чарнобыльскім дзецям, прыгрэем, прылашчым у нашых хатах няшчасных...**

**Нялёгка... Але ж і не будзе лягчэй, калі будзем толькі ўздыхаць ды плакаць.**

**У хвіліну цяжкіх сумненняў, самоты, душэўнага болю і адчаю зайдзіце ў храм. Зайдзіце. Нават калі вы не лічыце сябе вернікам. Пасядзіце, памаўчыце, паслухайце сваю душу ў храме...**

**І вам палягчэе...**

**А пасля падумайце, як вы будзеце жыць далей...**

Ірына ЖАРНАСЕК.

г. Наваполацк.

## Віншуем!

**70 гадоў — Міколу Ермаловічу... 70 гадоў — пісьменніку і гісторыку... 70 гадоў — аднаму з тых нястомных руплііўцаў, хто задоўга да нацыянальнага Адраджэння жыў нацыянальным Адраджэннем і набліжаў яго сваёй самаахвярнай працай. Віншуем Міколу Іванавіча з юбілеем! Так і надалей, спадар Ермаловіч!**



# ВЯРТАННЕ Ў БУДУЧЫНЮ

Надоечы ў адной з перадач Цэнтральнага тэлебачання пра чалавека надзіва таленавітага, па-сапраўднаму ўлюбёнага ў музыку было прамоўлена: «Фанатычная апантанасць». Напачатку спалучэнне гэтых слоў здзівіла. а хутчэй уразіла нейкай сваёй несумяшчальнасцю. З аднаго боку — нешта загадзя спраектаванае на веру, хоць і вельмі моцную, але ў нечым фатальна-сляпую. А з другога — адданасць справе да канца, да самазабыцця. А як падумаў-разважыў — вызначэнне дакладнае, хоць і нечаканае. Адразу ж адшукалася і паралель. Акурат пра нашага Міколу Ермаловіча сказана.

Падумайце самі: чалавеку было за пяцьдзесят, а ён, амаль пазбаўлены зроку, знайшоў сілы і на сваю вельмі сціплую пенсію штодня ездзіў з не такога і блізкага Маладзечна ў Мінск, наведваўся ў Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У. І. Леніна, каб там да позняга вечара праседжваць над рэдкімі выданнямі, рукапісамі. І гэтак дзень за днём, год за годам, без выхадных, без адпачынку...

Праца на знос, інакш не скажаш. Якраз тая самая фанатычная апантанасць, асабліва, калі ўлічыць, што разлічваць на публікацыю гістарычных артыкулаў не надта даводзілася. Афіцыйная навука не магла пазбавіцца схем, ёй жа самой аднойчы створаных. Вульгарызатарскае стаўленне да мінулага, да падзей шматвяковай даўніны выгадна было тым, што дазваляла раз і назаўсёды расставіць усё па палічках, адвёўшы кожнаму народу пэўнае «месца» ў гісторыі. М. Ермаловіч жа ў сваіх развагах гэтыя схемы разбураў і,. што самае важнае, рабіў доказна, аргументавана, кіруючыся не эмоцыямі, а фактамі.

Пісаў, па сутнасці, для сябе. Занатоўваў, сістэматызаваў матэрыял. Толькі зрэдку асобныя думкі, часам зусім і не галоўныя, прабіваліся ў друк, выносіліся на суд грамадскасці. Гэта тады, калі, пішучы чарговую рэцэнзію ці літаратурна-крытычны артыкул, дазваляў сабе адысці ад разваг як бы крыху ўбок, а на самай справе паспрабаваць правесці паралель паміж тым, што раскрываў і паказваў у сваім гістарычна-мастацкім творы пэўны аўтар. і што было ў сапраўднасці, аб чым красамоўна сведчылі факты. Нямногія ведалі (хіба людзі з блізкага акружэння М. Ермаловіча, ды гэткія самыя апантанцы, з кім неаднойчы сутыкаўся ён у бібліятэках і архівах), што яшчэ ў 1966—1968 годзе М. Ермаловіч завяршыў унікальную кнігу «Па слядах аднаго міфа». Ды і скуль ведаць было, калі абэцэдаршчына пусціла ў беларускай гістарычнай навуцы такія моцныя карані. Тыя ж, хто спрабаваў вырваць іх, траплялі ў няміласць.

У кнізе «Па слядах аднаго міфа» М. Ермаловіч асмеліўся абвергнуць адзін з самых вялікіх міфаў сучаснай гістарычнай навукі — пра тое, што ўзнікненне Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII стагоддзя пачалося з заваёвы Міндоўгам некаторых беларускіх земляў. Міф сучасны, але вытокі яго ажно ў XVI стагоддзі. «Нараджэнне гэтага міфа,— як сведчыць наш выдатны гісторык А. Грыцкевіч,— звязана з тагачасным імкненнем вялікіх князёў маскоўскіх давесці іхнія правы на землі Беларусі і Украіны. Таму ў «Сказании» (маецца на ўвазе «Сказание о князьях владимирских». — **А. М.**) вялікія літоўскія князі Віцень і Гедымін выступаюць як захопнікі гэтых земляў, якія павінны быць вернуты законнаму гаспадару — вялікаму князю маскоўскаму».

Уяўляеце, які вэрхал пачаўся, калі М. Ермаловічу ўсё ж удалося частку рукапісу апублікаваць «у адным з рэдкіх акадэмічных выданняў па археалогіі»?! Нейкі самавук, без званняў і тытулаў абвяргае думку масцітых вучоных, сталічных гістарычных «свяціл», якія, штодня кленучыся ў «інтэрнацыяналізме», «вялікаму брату» адводзяць асабліва адметную ролю і ва ўсёй гісторыі, і ў гісторыі славянства ў прыватнасці! «Пакрыўджаныя» аўтарытэты пісалі ў ЦК КПБ і ў ЦК КПСС, а можа, і яшчэ ў якую-небудзь установу — гэта ўжо ім лепш ведаць...

Ці трэба здзіўляцца, што кніга «Па слядах аднаго міфа» заставалася рукапісам дваццаць гадоў — толькі ў 1989 годзе яна нарэшце пабачыла свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» і адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Што цікава — кніга гэтая асабліва прыйшлася даспадобы моладзі, якой даўно хочацца ведаць як мага болей праўды пра нацыянальнае мінулае. Па выніках апытання, праведзенага часопісам «Крыніца», у своеасаблівым хіт-парадзе «10 лепшых кніг года» праца М. Ермаловіча заняла першае месца. Нядаўна ў той жа «Навуцы і тэхніцы» яна выйшла другім, дапоўненым выданнем.

Пыліўся ў аўтарскай шуфлядзе рукапіс «Па слядах аднаго міфа», знаходзіліся ахвотнікі «астудзіць пыл» няўрымслівага гісторыка (кажуць, што адзін з нашчадкаў Цанавы нават абяцаў пагаварыць інакш і шкадаваў, што, маўляў, ужо зусім не тыя часы), але М. Ермаловіч як быццам і не зважаў і на гэтую няўдзячную няўважлівасць да сябе, і на пагрозы. Не меў проста часу на гэта, бо забірала яго новая задума, спакваля працаваў над новай кнігай.

Таксама не вельмі спадзяваўся, што лёгка будзе выдаць яе, бо і чарговая тэма атрымалася. так бы мовіць, дакліва ці што... Замахнуўся М. Ермаловіч на тое, каб перагледзець гісторыю роднай зямлі, і назва адпаведная ўзнікла — «Старажытная Беларусь». Акрэсліў задачы немалым перыядам — ад даўніны, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся першыя насельнікі, да ўтварэння і ўмацавання Вялікага княства Літоўскага. Зноў ішоў «у рожкі» з афіцыйнай навукай, зноў разбураў міфы, а сярод іх і той, згодна якому самі паняцці «Літва», «літоўцы» атаясамліваюцца з іх сучаснымі носьбітамі. Без перабольшання — перапісваў гісторыю, але не ва ўгоду ўласным амбіцыям, а прытрымліваючыся праўды і толькі праўды. Праўда ж гэтая збіралася літаральна па крупінках — нанава перачытваліся дзесяткі і дзесяткі розных прац, праглядаліся розныя крыніцы.

Матэрыялы, да якіх яшчэ да М. Ермаловіча мелі доступ многія, загучалі па-новаму, калі часопіс «Маладосць» у 1988 годзе пачаў друкаваць «Старажытную Беларусь», прадоўжыўшы яе ў 1989 годзе. Тыраж выдання рэзка падскочыў і адразу ж, хоць ужо і не першы год ішлі ў грамадстве дэмакратычныя працэсы, колькасць экземпляраў у розніцу была... зніжана. Зноў нашая нацыянальная боязь новага, праўды. Але ж менавіта такія кнігі, як «Старажытная Беларусь» М. Ермаловіча (яна толькі што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» тыражом дваццаць тысяч экземпляраў і гэтаксама, як першае выданне «Па слядах аднаго міфа», маланкава хутка знікла, таму так і чакаецца дадатковы тыраж), і неабходны сёння, калі народ нарэшце зноў прачынаецца ад летаргічнага сну, а рэспубліка пачынае ўсведамляць сябе дзяржавай. Яны — падручнікі жыцця, нашай шматпакутнай і складанай гісторыі.

Кнігі гэтыя — вяртанне нашай памяці. А яшчэ гэта — і адначаснае вяртанне ў будучыню. Тут да месца паўтарыць словы самога Міколы Ермаловіча з артыкула «Народ і гісторыя», які адкрывае «Старажытную Беларусь»: «...народ павінен ведаць сваю гісторыю, але не на тое, каб яе паўтараць, бо паўтарэнне гісторыі, нават самай бліскучай, азначае, што народ гэты не мае ўжо сваіх ідэалаў у будучым, што ён бачыць іх толькі ў мінулым, а гэта раўназначна яго пагібелі. Не, хоць гісторыя па сваім змесце заўсёды звернута ў мінулае, яна даследуецца і вывучаецца ў імя будучыні».

У імя будучыні і напісаны М. Ермаловічам яго кнігі. Усяго дзве кнігі. Але — вартыя шматлікіх тамоў.

Нічога не зробіш — фанатычная апантанасць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Хочам з дапамогаю «ЛіМа» павіншаваць з 70-годдзем Ермаловіча Міколу Іванавіча.**

**Беларусы ўсяго свету чакалі выхаду ў свет ягоных кніг. І зараз, калі яны з'явіліся ў кнігарнях і імгненна зніклі з паліц, мы кажам Міколу Іванавічу вялікі дзякуй за тое, што ён вярнуў нам, моладзі, мінулае нашай Бацькаўшчыны. За свае пакуты і цяжкую працу ён стаў гонарам нацыі.**

**Яго кнігі заклалі падмурак сапраўднай гісторыі беларускага народа. Таму мы чакаем новых навуковых даследаванняў Міколы Іванавіча і няхай на гэтым шляху яго падтрымлівае і бароніць Святая Ефрасіння.**

**Зычым яму моцнага здароўя, поспехаў і каб наступныя гады яго жыцця былі б такія ж плённыя!**

Ігар ПУШКІН, Сяргей ВАЛЯВАТЫ, Алесь СЕРДЗЮКОЎ, Алег ЯКАВІЦКІ, Ілля ГЕСЦЬ і інш., усяго 21 прозвішча—сябры культурна-асветніцкага аб'яднання беларусаў горада Магілёва «Машэка».

# РОЗДУМ

РЭДАКЦЫЯ штотыднёвіка пазнаёміла мяне з лістом маладой маці з Наваполацка: яна выказвае шчырую заклапочанасць і незадаволенасць станам беларускай дзіцячай літаратуры, і для мяне гэты клопат — знак добры. Аўтарка пісьма, мастачка Т. Козік, відаць, разумее, што ўжо цяпер, на ранку жыцця дзіцяці, трэба рупіцца пра паўнацэннае ўспрыманне ім мастацтва. Бо калі не зрабіць гэтага своечасова, то чалавек і ў сталых гадах не будзе здольны на такое ўспрыманне.

Безумоўна, незадаволенасць чытачкі «ЛіМа» мае рэальныя падставы. У пісьме гучыць скарга, што няма ў нашай літаратуры герояў, якія маглі б вытрымаць саперніцтва з Нязнайкам, Бурацінам, Карлсанам — з чым, бадай, варта пагадзіцца. У сваім маладым запале аўтарка нават сцвярджае: «Ёсць выдавецтва «Юнацтва», ёсць дзесяткі літаратараў, якія пішуць для дзяцей, штогод выходзяць дзесяткі кніжак, напісаных гэтымі літаратарамі, а беларускай дзіцячай літаратуры **няма**». Яна згадвае імёны Янкі Маўра, Леаніда Дайнекі, Паўла Місько і шкадуе, што іхнія творы напісаны для падлеткаў.

Што ж, катэгарычнасці тут хапае, паразважаць ёсць пра што. І перш за ўсё пра тое, якое наогул становішча дзіцячай літаратуры ў сённяшняй незвычайна цяжкай, складанай і супярэчлівай сітуацыі, у перыяд духоўнага разлому грамадства.

Трэба сказаць, што дзіцячая літаратура, як і праблемы выхавання, нялёгкія і складаныя ва ўсе часы. Толькі на працягу доўгага часу яны спрашчаліся і звужваліся закасцянелымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Ці ж не знаёмы нам, да прыкладу, заклік выхоўваць «новага чалавека» ў духу непрымірымай класавай маралі, пад лозунгам «калі вораг не здаецца, яго знішчаюць»? І гэта ў мірны час!

Але як быць цяпер, калі рушацца старыя догмы і адбываецца глабальная пераацэнка каштоўнасцей? Як і на чым «выхоўваць» сёння? Памяняць плюс на мінус? Ёсць жа вялікая пагроза ў такі смутны і няпэўны час усёй атмасферай жыцця, разбуральнай яго стыхіяй пахіснуць дзіцячую веру ў чалавечыя ідэалы наогул — у перамогу дабра над злом, у міласць і праўду, у высакародства чалавечай душы, у святое і вечнае. А як жыць чалавеку без такой веры, асабліва маленькаму? Не спапяліць бы дзіцячыя душы! Не выбіць бы з-пад іх ног пункт апоры!..

У гісторыі літаратуры бывалі моманты, калі дзіцячая літаратура асобнымі, лепшымі сваімі творамі ў меру сваіх магчымасцей супрацьстаяла маральным дэфармацыям у грамадстве, трагічнаму адчужэнню чалавека ў ім. Прыгадаем купалаўскага «Хлопчыка і лётчыка», гэты «самацвет паэзіі», паводле выразу М. Лужаніна, самы пранікнёны і паэтычны ў ляўкоўскай нізцы вершаў. Бадай толькі «Лён» можна паставіць побач з ім. У гэтых вершах мне бачыцца аўтарскае імкненне стварыць — насуперак змрочнай рэчаіснасці 30-х гадоў — нейкую іншую мадэль жыцця, абапіраючыся на вечныя, непераходныя, агульначалавечыя каштоўнасці. У адным выпадку — гэта дзяцінства, чыстая, празрыстая крыніца жыцця, у другім — праца як матэрыяльная і пэўным чынам духоўная аснова чалавечага існавання. І тое, і другое высвечваюць у чалавеку агульнае, сутнаснае, універсальнае. Купалаўскі верш са сваім бясхмарным лірызмам і прасветленасцю як нельга лепш адпавядаў моцнай дзіцячай прaзе гарманізацыі свету.

Такую вось ролю «процівагі» ў літаратуры 30-х гадоў вы-

# «...І ПРЫЙДЗЕ ЛЕПШЫ ДЗЕНЬ»

Гэтая кніга выйшла праз шмат гадоў пасля трагічнай смерці паэта. У 1934 годзе Дзмітрый Фалькоўскі стаў ахвярай тыповага па тым часе суда. І вось, нарэшце, вяртанне сумленнага чалавека і літаратара сапраўды высокага таленту. Пасмяротны зборнік вершаў Дзмітрыя Фалькоўскага «Поезії» (Кіеў, «Радянський письменник», 1989) склалі лепшыя яго творы з прыжыццёвых зборнікаў, паэмы, а таксама асобныя вершы. І сёння мы бачым, што з паэзіі Д. Фалькоўскага, цесна звязанай з лёсам сялянства, можна даведацца больш аб праўдзе класавай барацьбы пасля рэвалюцыі, чым з манаграфій некаторых гісторыкаў. З гэтай кнігі мы сёння ведаем, якім ён быў, чым захапляўся і аб чым марыў. Ва ўспамінах аднаго з відных мастакоў беларускага слова Уладзіміра Дубоўкі захаваліся такія радкі: «У маёй памяці збярогся яго цудоўны вобраз: стромкі юнак, злёгку сарамлівы, з дзіўнай напаўіранічнай усмешкай... Водбліск такой усмешкі адчуваўся і ў вершах Д. Фалькоўскага...».

Дзмітрый Нікіфаравіч Ляўчук (сапраўднае прозвішча Фалькоўскага) нарадзіўся 3 лістапада 1898 года ў вёсцы Лепясы на Брэстчыне (сёння Кобрынскі раён) у сялянскай сям'і, непадалёку ад рэчкі Мухавец. Як і многія яго сучаснікі, змалку спазнаў цану нялёгкаму чорнаму хлебу. Нягледзячы на матэрыяльныя нястачы, бацькі спачатку аддаюць Дзмітрыя ў Кобрынскае рэальнае вучылішча, а затым у Брэст-Літоўскую рускую гімназію. (Сёння гэта адзін з карпусоў Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.)

У гады грамадзянскай вайны, ён — адзін з першых членаў Кобрынскай падпольнай групы РКП(б), утворанай у 1918 годзе,— прымае ўдзел у паўстанцкім руху, а з 1920 па 1923 год служыць на небяспечным фронце — у часцях асобага прызначэння. Пазней пра гэтыя гады ён скажа, што «лепшыя гады правёў у сяброўстве з вінтоўкай і штыком».

Трэба сказаць, што ў чэкісты Д. Фалькоўскі падаўся дзякуючы свайму дружбаку яшчэ з гімназічных часоў Ф. Федасюку — аднаму з арганізатараў Кобрынскага рэўкома, павятовай міліцыі і аддзела губчэка. Але гэтая работа Фалькоўскага надзвычай мучыла.

А він стояв тоді понуро;
І руки зв'язані іззаду...
І тільки місяць коло муру
Скликав сестер своїх на раду.
В очах байдужість і покора...
І тихо:
— Дайте докурити.—

**Міхась РУДКОЎСКІ**



# Скажы...

Скажы,
У якім быў ты часе-прасторы
У д'ябальскі той сенакос,
Калі паміралі лясы і азёры,
І падалі птушкі з нябёс!
Скажы,
А калі ты прыходзіў да маці,
Што там, пад сасонкаю, спіць!..
Напэўна, якоесь цяжкое праклянцце
Над намі, як камень, вісіць...

# Амаль не-фантазія

— Яшчэ на пачатку нашае эры
У старажытным Рыме
Чуў я на ўласныя вушы,
Як мае суайчыннікі
Вінавацілі часта
То зямлю
У яе бясплоддзі,
То клімат
У яго капрызнасці,
Згубнаю для ураджаю.
О, як было гэта ўсё
Далёка да ісціны!
І я ім казаў:
«Не, справа не ў гневе нябесным,
А ў нашай уласнай віне —
І толькі»,—

Так думае ўголас
Мой госць Калумела,
Едучы разам са мной
Па Палессі.
— Я спадзяюся, — ён кажа
І паказвае на бяскрайнія нівы, —
Такіх нараканняў нямала
Ў вашым краі, калега!..—
Маўчу я ніякава:
Бо што, што скажу табе я,
Дасведчы пісьменнік,
Шаноўны вучоны!..

●

У одуме ціхім, у скрусе
Я еду, іду ці стаю —
І рысы сваёй Беларусі
Даўно ўжо не пазнаю.

Без рэкаў — бы ў стэпе і нема
Без птушак у чэзлых лясах.
Як Ірад той у Віфлееме,
Хтось тут паўладарыў у нас.

Ці то падышла яму глеба!
Ці, можа, ў нас клімат такі!..

---



*Уладзімір Арлоў*

# Сны імператара

## Фрагмент з аповесці

**Падзеі ў аповесці адбываюцца на востраве святой Алены, дзе пражыў у выгнанні свае апошнія гады Напалеон Банапарт. Летам 1812 года на Беларусі яго спачатку сустракалі як вызваліцеля...**

Лагодны жнівеньскі вецер надзімае бэзавы цюль. Несучы з сабою вільготныя пахі ракі, вецер залятае ў адчыненыя вокны, кратае на стале пёры, змушае прыцiскаць паперы масянжовым фаўнам-каламарам і вазаю з чырванабокімі яблыкамі.

Ён толькі што прыняў дзве дэпутацыі і цяпер адпачывае. Прадстаўнікі месцічаў прыходзілі са скаргаю на рабункі. Частка войска перапраўлялася праз Дзвіну наўплаў за трыццаць вёрстаў ад горада і ўвайшла ў Віцебск на дзень раней,чым ён. Тады і ў наступную ноч жаўнеры сапраўды далі сабе волю. Выслухаўшы скаржнікаў, ён загадаў у некалькі разоў павялічыць патрулі.

Следам прыбыла дэлегацыя ад мясцовага дваранства: яны згодныя, як вымагаюць абвесткі, з'явіцца ў бернардзінскі кляштар, каб прысягнуць яму, Напалеону, але просяць пісьмовым загадам вызваліць іх ад прысягі расейскаму трону. Загад гатовы.

Там, за ракою, гандлёвая прыстань, купецкія сховішчы, а далей — разлогі паплавоў са стажкамі сена, падобнымі да фішак на занятках па тактыцы ў вайсковай школе. Хутка па-над лугамі паплывуць блакітныя пасмы туману, а пакуль прастора крынічна празрыстая да самага далягляду з роўным цёмназялёным паскам лесу.

Ён перачытвае свой указ аб рэквізіцыях. У жніўні ў пяці заваяваных губернях рэквізіцыі падлягае яшчэ 53 тысячы кароў. Так, гэта жорстка. Але ён не можа асудзіць Вялікую армію на голад. Калі віленскі ўрад лічыць сябе ягоным саюзнікам, няхай корміць яго жаўнераў. Пагатоў, выстаўляць сваіх не вельмі спяшаецца.

Ён адкладае паперы, выходзіць з кабінета і спускаецца па парадных сходах. На пост заступіла вячэрняя варта, і мацакі-гвардзейцы аддана глядзяць на яго з вышыні свайго двухметровага росту.

Палац на стромым беразе Дзвіны, водбліз таго месца, дзе яна сустракаецца з рэчкаю, якая дала гораду такое цяжкае французскаму вуху і языку імя — Ві-цебск.

Ён спыніўся ў апартаментах, што летась старанна рыхтавалі «яго каралеўскай высокасці» герцагу Аляксандру Вюртэмбергскаму. Цар прызначыў герцага губернатарам дзвюх беларускіх губерняў.* Цяпер гэтыя губерні належаць яму, Напалеону.

У адным з колішніх герцагавых пакояў ён загадаў зрабіць хатнюю царкву. Імшу правіць ксёндз Палонскі. Той самы, што сказаў перад сабранымі ў езуіцкім касцёле грамадзянамі прамову, заклікаючы да прысягі на вернасць імператару Францыі. Хто прысягнуў, абавязаны насіць на рукаве каляровую кукарду. Месцічам без кукарды на вуліцах лепей не з'яўляцца.

Ён паволі ідзе сцежкаю ўздоўж палаца.

Ад свае рэзідэнцыі ён у захапленні. Галоўны фасад з парадным уваходам просты і строгі. Масіўныя калоны нясуць на ўзроўні другога паверха цяжкаваты антаблемент з верандаю. Вузкія выцягнутыя вокны з тонкімі пераплётамі робяць будынак больш лёгкім і высокім. Ён на хвіліну прыпыняецца, каб паглядзець на бакавы фасад, што выходзіць на раку вокнамі яго кабінета і спальні. Калоны, рустоўка сценаў ніжняга паверха, паўкалоны верхняга, портык... Ва ўсім дакладнасць, разлік і прыгажосць — як у баявых шыхтах перад бітвай. Калі б Усявышні не стварыў яго палкаводцам, дойлідам самой гісторыі, ён, магчыма, стаў бы архітэктарам.

За домам цягнецца ўсцяж ракі вялікі сад — з альтанкамі, лавачкамі, з мудрагелістымі сонечнымі ўзорамі на сцежках. За дзесяць дзён ён паспеў амаль палюбіць гэты стары сад, дзе ў часе вечаровых прагулянак яму так добра думаецца.

Ён уваходзіў у Віцебск раніцой, роўна праз месяц пасля ўступлення ў Вільню. На досвітку шукаць кватэры штабу, генералам і імператару ў горад паскакалі два эскадроны егераў і мамелюкаў. Потым пайшлі пяхотныя палкі. Яны складалі стрэльбы ў козлы, скідвалі ранцы і шыхтаваліся па баках вуліц. Сышоўшы з каня, ён сядзеў пры гасцінцы і, спусціўшы ногі ў канаву, глядзеў на войскі.

Потым ён ехаў ступою на сваім буланым па гэтым жывым калідоры, сярод генералаў і маршалаў у шытых золатам мундзірах. На ім быў сціплы зялёны мундзір з зоркаю, паўзверх — расшпілены шэры сурдут. Здымаючы трохвуголку без пяра, ён ветліва адказваў на паклоны месцічаў. Кветак амаль не было. На скрыжаванні каля сінагогі стаяў натоўп паважных пэйсатых яўрэяў. «Што яны крычаць?» — павярнуўся ён да тлумача. «Дзякуй Богу, нашы прыйшлі!» — пераклаў той.

Праехаўшы да Смаленскай заставы, ён праскакаў вярсты тры па Пецярбургскай дарозе і вярнуўся ў падрыхтаваны яму дом. У пакоях адшпіліў шпагу, кінуў яе на завалены разгорнутымі мапамі Расеі стол і абвясціў: «Тут я спынюся, злучу корпусы маёй арміі, дам ёй спачын і займуся ўладкаваннем гэтай краіны. Ваенная кампанія 1812 года — скончаная!»

На ўсе грудзі дыхаючы чыстым вечаровым паветрам, ён думае, што ў тыя хвіліны проста паддаўся стоме.

Усе віцебскія дні ён шмат і з асалодаю працуе. Ён стварыў вярхоўную губернскую камісію, куды прызначыў прэфектамі і мэрамі некаторых мясцовых дваран. Праз кур'ераў ён кіруе парыжскім жыццём. Піша штодня па сто лістоў. А шостай раніцы — развод войскаў, на якім ён абавязкова прысутнічае са штабам. Пляц пад разводы зрабілі побач з палацам, разабраўшы колькі драўляных дамоў і муры недабудаванае царквы.

Першыя дні ён з вялікім почтам шмат ездзіў верхам па горадзе і ваколіцах. Вывучыўшы Віцебск, ён заняўся падрыхтоўкаю на выпадак раптоўнай атакі. На вуліцах з'явіліся барыкады з гостраканечнымі частаколамі і землянымі валамі. За ракой, у царкве святога Сімяона ён паставіў гарматы, ператварыўшы вокны храма ў амбразуры. Дзвіну перасеклі тры масты. На пляцы перад домам дваранскага сходу і ў самім доме зладзілі хлебныя печы. Успенскі сабор ён ператварыў у шпіталь, царкву Уваскрэсення на рынку — у склад сена і саломы. Кляштар бернардзінаў стаў правіянцкім складам, яшчэ адзін храм Уваскрэсення — млынам, а старая Барысаглебская царква, што самотна стаяла над Дзвіною,—парахавым сховішчам.

Апрача ўсяго гэтага, ён абдумвае перамовы з расейскім імператарам, калі той зноў папросіць міру.

Так, не ўсё склалася паводле ягоных разлікаў. Армія Тармасава разбіла пад Кобрынам саксонскі корпус, а Баграціён паспеў перавесці свае дывізіі на левы бераг Дняпра. Яму не ўдалося ўцягнуць у вялікую гібельную бітву Барклая дэ Толлі. Барклай здолеў трыма дывізіямі спыніць ягоны 25-тысячны авангард каля мястэчка Астроўна. Тры дні ад раніцы да позняга вечара ішлі несупынныя баі. Тры дні ён амаль не сыходзіў з каня, не спыняючыся ні ў вёсках, ні ў дваранскіх дамах. На дзесяці вёрстах шляху ад Астроўна да Лучосы забітыя ці параненыя ляжалі на кожным метры, аднак расейскай арміі ўсё ж удалося адарвацца. Тады ён і вырашыў спыніць пераслед і даць войскам адпачынак.

Не самыя ўсцешлівыя рэляцыі прыходзяць і з Полацка. Днямі пад Клясціцамі расейскі корпус Вітгенштэйна сустрэўся з Удзіно. У Вітгенштэйна было 17 тысяч войска і 108 гарматаў, Удзіно меў 29 тысяч і 114 гарматаў. Яго маршал, наступаючы па пецярбургскім тракце на поўнач, заняў Клясціцы, аднак расейцы на чале з Якавам Кульнёвым контратакавалі і праз дзень вярнулі вёску сабе. Гэта былі тыя самыя гродзенскія лейб-гвардзейцы, якіх яшчэ ў 1807 годзе ягоныя жаўнеры з павагаю і страхам празвалі «сінімі гусарамі». Здаецца, штандары ў «сініх» амаль такія самыя, як у палка Дамініка Радзівіла, таго, што першы ўступіў у Вільню. Толькі ў адных — двухгаловы расейскі арол, а ў другіх — Пагоня, герб Вялікага княства.

Divide et impera!*

Сам Кульнёў загінуў. Адны сцвярджаюць, што ядро трапіла яму ў ногі, а Марбо, які быў за два крокі ад месца здарэння, паведаміў, што ўдарам шаблі ў горла генерала забіў французскі конны стралок. Ён, імператар, паслаў у Парыж дэпешу: «Адзін з найлепшых афіцэраў расейскае лёгкае кавалерыі генерал Кульнёў забіты пад Дрысаю».

Тым часам маруду Макдональда як быццам нейкія чары прыкавалі да Дынабурга. Гэта ратуе Вітгенштэйна, і ён, імператар, вымушаны аддаць Удзіно 6-ы баварскі корпус Сен-Сіра. Пры пераходзе праз Нёман у ім было 25 тысяч, але корпус ішоў у хвасце Вялікай арміі і, па сутнасці, з самага пачатку галадаваў. Добра, калі ў Полацк прыйдзе хоць палова.

Але няхай. Няхай ён няраз прайграваў. Няхай сарваўся пераможны марш Удзіно на паўночную сталіцу. Затое ўся Беларусь і Літва ўжо заваяваныя. Ён прайшоў ад Нёмана сотні вёрстаў і за паўтара месяца набыў пяць мільёнаў новых падданых.

Так, ён пераацаніў Вялікую армію. Наіўна было марыць пра маналітнасць войска, дзе на няпоўныя трыста французскіх батальёнаў пяхоты і 38 тысяч французскай кавалерыі прыпадае 307 пяхотных батальёнаў і 42 тысячы кавалерыстаў з іншых краін Еўропы.

Так, яму не ўдалося пазбегнуць дэзерцірства. Прыклад паказалі няўдзячныя гішпанцы, якіх ён выратаваў ад жахаў інквізіцыі. Злыя языкі кажуць, што дэзерцірамі ён страціў ужо болей, чым забітымі і параненымі.

Дэзерціры аслабляюць не толькі войска, але — сваімі жорсткімі рабункамі — і тыл. Ды рабуюць не адны яны. Ён пакінуў выязджаць на конныя прагулянкі, бо мусіў выслухоўваць несканчоныя скаргі. Аднаго разу на вуліцы нейкі дваранін запрасіў яго зайсці ў дом і паглядзець, як паводзяць сябе жаўнеры. Гаспадарам сапраўды цяжка было пазайздросціць. На фартэпіяна стаялі рондалі, гаршкі і патэльні. Сад быў ператвораны ў стайню і пашу. Не ўважаючы на поўную дрывотню, жаўнеры ламалі на дровы згароду, seклі ў пакоях мэблю. У гасцёўні, калі ён убачыў паміж фамільнымі партрэтамі развешаныя на сценах кавалкі сырога мяса, яго ледзь не званітавала.

Зрэшты, на вайне, як на вайне.

Трэба канчаткова развітацца і з наіўнай мараю атрымаць ад гэтых губерняў стотысячнае войска. Сёння людзей у яго беларуска-літоўскіх палках разы ў чатыры меней. У корпус Паняtoўскага ўвайшла артылерыйская батарэя. Да палка слонімскага шляхціца Канопкі далучыўся эскадрон беларускіх татараў. Уланскія палкі дагэтуль не скамплектаваныя, пяхотным бракуе рыштунку і зброі...

Усё гэта суадносіцца з мажорнымі чэрвеньскімі планамі прыкладна так, як ваза з яблыкамі ў ягоным кабінеце з яблыняю пад вакном, што дала яму малую частку сваіх пладоў. Не, параўнанне яўна няўдалае. Плады спеюць...

Праз колькі дзён яму споўніцца сорак тры. Дзень нараджэння будуць святкаваць сто мільёнаў жыхароў яго імперыі. На Беларусі і ў Літве таксама ідзе падрыхтоўка. Яму даносяць, што ў гарадах ужо гатовыя партрэты са святочнымі надпісамі. «Уся цвердзь зямная памятае: у гэты дзень прыйшоў на свет той, хто пакараў ганарыстых і вызваліў слабых». Або: «Усемагутны і справядлівы Госпад выяўляе волю сваю ў Напалеоне»...

Яго народжаны летась сын успадчыць імперыю ад Пірынеяў да Масквы. Тут, у губернатарскім палацы, у гэтым садзе, у першыя жнівеньскія дні ён прыняў адно з галоўных у жыцці рашэнняў: ісці на Смаленск і Маскву.

Сонца стамлёна кранулася сіняга ад смугі далёкага зарэчнага лесу. Чыстае неба паглыбела. На горад апускаецца вечар, і ў садзе гусцее сутонне.

Ён выходзіць з зялёнага прыцемку на высокі бераг. Па шырокай дзвін-

---

* У XIX стагоддзі Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні называліся беларускімі, а Мінская, Гродзенская і Віленская мелі традыцыйную назву літоўскіх. Такі падзел захаваўся ў абыходку і пасля 1840 года, калі Мікалай I забараніў карыстацца назваю «Беларусь» у афіцыйных дакументах.

* Падзяляй і валодай! (лац.).

**...Я плачу... І падаюць з неба**
**У далоні мае жаўрукі.**

●

Мова—жыццё і смерць народа.
З старажытнага.

**Кладзём Яе у саркафаг.**
**Нібы ў нірване,**
**Слязінкі ціхія ў вачах —**
**Ідзе літанне...**

**Чакаюць лаціняне нас**
**І магікане.**
**Даўно, даўно... Напэўна, час**
**І на спатканне...**

●

**І двор зарос травою-муравою,**
**І бусел не садзіцца на гумно,**
**І над, бы ў пекле, зніклай галавою —**
**Не неба, а прабабчына радно.**

**На людзі выйдзеш — толькі пра**
**латругаў,**
**Пра дываны, пантофлі ды свіней.**
**І месяц — старасвецкі валацуга —**
**К табе даўно ў акно не зазірне.**

**Ды не тужы: і звады, і парады**
**Забудуцца, бы колішнія сны,—**
**Адтуль, ужо няблізкіх даляглядаў,**
**Вяртаюцца сыны,**
**твае сыны.**

# Стогн

**Для вас — мае пушча, і травы, й**
**пралескі,**
**І кожнае зернятка ў заўтрашнім полі,**
**І трубы аленяў, і зябліка песня,**
**Для вас — мая воля,**
**спрадвечная воля.**

**А вы да мяне —**
**у жалезе і п'яна,**
**У зайздрасці хцівай і жорсткай без**
**меры...**
**Уся у атруце,**
**у шрамах і ранах,**
**Канаю паціху...**
**без страху...**
**без веры...**

●

**Я не створаны, пэўна, для раю,**
**Дый не пусцяць у шаты ўдваіх.**
**А мне так,**
**А мне так не хапае**
**Нефармальных пачуццяў тваіх!**

**Дык мо зрынемся ў ноч,**
**у лясное,**
**Дзе другіх не чутно, не відно!..**
**А ўжо там — хоць у пекла якое!**
**Хоць на самае-самае дно!**

●

**Я сёння Бог. І гэта ноч мая.**
**Я праціраю сэрцам неба лапік.**
**Апошні. Я твару. І не твая**
**На небе гэтым застанецца лапа.**

**Не гавару. Спарней без слоў пустых.**
**(Як месяц льецца нова і пунсова!)**
**Двурушнічай яшчэ сягоння ты,**
**А заўтра свет маё пачуе слова.**

скай роўнядзі, удзень серабрыста-сонечнай, а цяпер цёмнай, быццам навальнічная хмара, ідуць плыты. На плытах стаіць з бусакамі ў руках колькі людзей у белых кашулях і белых, высока падкасаных портках. Хтосьці заўважае чалавека на строме і, паказваючы на яго, крычыць астатнім.

Асначы паварочваюць твары, глядзяць угору, і ён, вітаючы гэтых мужных людзей, ужо яго падданых, падымае руку і нават крыху здзіўляецца, не чуючы ў адказ «Vive Ie'mpereur!»*

Сам сабе ўсміхаючыся, ён бачыць, як асначы нечакана хутка вяртаюцца да сваіх клопатаў, спрытна ўпраўляючыся з вялізнымі бусакамі. Яны і не здагадваюцца, хто глядзіць на іх з-пад старога ясеня на строме.

Заместа прывітальных крыкаў знізу даносіцца песня.

Доўгая чарада плытоў хаваецца за паваротам ракі. Знікае з вачэй і вогнішча на апошнім плыце, дзе гэтыя простыя людзі гатуюць сабе простую вячэру. Дзвіна нясе іх далей, а ў настуненым і чуйным вечаровым паветры яшчэ лунае іхняя песня. Зліваючыся з небам і з бяздоннай цёмнаю ракой, яна гучыць працяжна і журботна, але ў адначас ён чуе ў ёй і нешта пакрыёма-пагрозлівае.

Відаць, ад песні на незразумелай мове, ал народжанай ёю няўцямнай трывогі, вогкі ветрык, што цягне ад ракі, здаецца яму зусім халодным.

— Мой імператар... — чуе ён і знячэўлена паварочваецца на знаёмы голас.

Пад ясенем стаіць безыменная жанчына з віленскай ночы. Яна з'явілася так раптоўна, як магла б, напэўна, прыйсці да чалавека, саслізнуўшы з пераплеценых галінаў, сама дрыяда.

— Як вы сюды трапілі? — пытаецца ён, і сэрца пачынае абмываць струмок радасці.

Заміж адказу — усмешка.

Яна такая самая — і прычоска, і белая сукенка з лёгкай пелярынаю... У руцэ букецік дробных блакітных кветак з жоўтымі вочкамі.

— Як вам удалося прайсці праз варту?

— Я сказала, што вы мяне чакаеце.

— Вы... сказалі праўду.

Той раз яна дапамагла яму пазбыцца паняверкі. Які падарунак чакаць ад яе сёння? Зрэшты, падарунак — ужо само ейнае з'яўленне, такі неспадзяваны працяг песні плытагонаў.

Яму адно здавалася, што ён забыў яе. Ён чакаў сустрэчы. Ён хацеў ведаць, прыйшла яна сама ці хтосьці прыслаў яе. Хацеў даведацца, хто яна, жанчына, што так чулліва спрабавала выконваць ролю заступніцы свайго народа? Хацеў паглядзець у зялёныя вочы...

Ён ужо чуе гукі і пахі іх першае ночы і прадчувае ноч сённяшнюю. Ён успамінае яе цела, успамінае пах дыму і суніцавы пах грудзей...

— Як называюцца вашы кветкі? — гаворыць ён, каб запоўніць пярэрву.

— У народзе іх завуць жабіны вочкі. Праўда, падобныя?..

— Вы так лёгка апрануліся... Пойдзем у дом.

Ён падае ёй руку, і яны ідуць да палаца. Вокны прытульна свецяцца. Над садам песціцца сярод першых зорак крыху шчарбаты луідор месяца, і ад дрэваў кладуцца на сцежку вычварныя цені.

Каля ўвахода іх сустракае ад'ютант. Імператар не можа зразумець, чаго ў вачах у ад'ютанта болей: ухвалы ці здзіўлення? Але хіба не ён сам загадаў прапусціць госцю ў сад?

Яны, як і першы раз, вячэраюць удваіх. Бязгучна і непрыкметна з'яўляюцца і знікаюць слугі. У збанку побач з вазаю, поўнай садавіны, мініяцюрны букецік яе жабіных вочак.

— Расея будзе ўпакорана!

Ён падымаецца ад стала і пачынае хутка пахаджаць ад вакна да дзвярэй.

— Расея будзе ўпакорана,— адрывіста гаворыць ён.— Я іду на Смаленск. Потым я вазьму Маскву. Гэта будзе ўдар у самае сэрца Расеі.

Ён ледзь стрымліваецца, каб не сказаць, што на сваёй асабістай мапе ўжо пазначыў стрэлкамі паход на Індыю.

Яна маўчыць. Яе дасканалая маленькая рука цягнецца да вазы і бярэ чорную ад спеласці вішню.

Яе маўчанне злёгку бянтэжыць яго. Напэўна, зараз ён пачуе нешта з таго, што ўжо чуў у Вільні. О, гэтая роля ратавальніцы! Але няхай. Такая яна яшчэ больш жаданая.

Ён гаворыць пра баі пад Астроўнам і Лучосай, пра бяссонныя ночы, узнагародаю за якія будзе сённяшняя ноч у гэтым утульным палацы над Дзвіною, па якой недзе далёка плывуць пад начным небам са сваёй трывожнаю песняй асначы.

— Вы не думалі,— нарэшце загаварыла яна,— чаму так адчайна біліся царскія палкі пад Астроўнам? Там служаць пераважна віленцы і віцябляне. Гэта благі знак, мой імператар...

Так, ён не памыліўся.

— Вы збіраецеся ісці на Маскву... Зусім нядаўна я чула ад вас іншыя словы. Вы прысягалі, што не пойдзеце сёлета далей Беларусі. Вы памятаеце? Я нагадаю вам вашыя словы: «Ісці сёлета далей — тое самае, што самахоць ісці насустрач гібелі»...

Ён смяецца. Яна зноў у сваёй ролі.

— На вайне, мая дарагая, абставіны могуць змяніцца імгненна. Так, як налятае віхура.

— Мой імператар, калі вы і цяпер не падтрымаеце імкнення маёй краіны да волі, калі не дасцё згоды на аднаўленне федэрацыі Княства і Кароны, вы здратуеце не толькі нашы надзеі. Вы перакрэсліце і свае.

Як яму надакучылі гэтыя размовы пра аднаўленне федэрацыі, пра незалежнасць. Ад іх яго ўжо даўно цягне на позехі.

— Вы забываеце, што за паўтара месяца я вызваліў усю вашу краіну ад расейскага прыгнёту.

— І, каб мы не забывалі пра гэта, запатрабавалі, апрача новых падаткаў, усе нашы старыя даўгі цару. Хіба вы не ведаеце справядлівасці гэтых даўгоў, хіба не ведаеце, што падаткі ў нашых губернях былі ў пяць разоў цяжэйшыя?

Як ёй пасуе хваляванне і бледны румянак на матавых шчоках! Ён сочыць ужо не столькі за яе словамі, як за ёй самой.

Ягонай арміі трэба надзейны тыл. Яна клапоціцца пра яго тыл! Брава!

Сяляне чакаюць скасавання прыгону, як у Польшчы, а ён вымагае бясконцых паставак фуражу і харчу. Пад выглядам ахвяраванняў жаўнеры бяруць з кожнага двара па два пуды сена і саломы і па пяць — жыта і аўса.

Яна нядрэнна дасведчаная...

— Мой імператар, цярпенне сялянаў сканчваецца. Яны хутка падымуць зброю супроць вас.

Няўжо яна сапраўды лічыць, што ў гэтай правінцыі, на краі цывілізаванага свету, а мо — пасля трыццаці гадоў расейскага панавання — ужо і за межамі цывілізацыі, няўжо яна верыць, што менавіта тут можа вырашацца лёс Еўропы і ўсёй эйкумены?

Якая яна мілая зараз, калі ад хвалявання ці ад гневу ў яе заірдзеліся не толькі шчокі, але і вушкі... Ён чуе знаёмы пах дыму, што струменіць ад ейных валасоў.

— Мая дарагая, палітыка і яе працяг, вайна, — не для жаночых галовак. Таму я схіляюся перад вашаю мудрасцю. Далібог, вы з поспехам маглі б замяніць сяго-таго з маіх маршалаў.

Ён цалуе ёй руку і глядзіць у зялёны бурштын з чорнымі іскрынкамі.

— Паверце, я не забыў ніводнага свайго слова і не адмаўляюся ад іх. У гонар нашае сустрэчы, у гонар ночы, якую вы мне падорыце, я зраблю Віцебск сталіцаю заваяваных земляў.

Слугі пакінулі іх. Цяпер самі яны — ён, імператар Еўропы, і яна безыменная жанчына, адна з мільёнаў яго падданых — робяцца слугамі і падданымі ночы.

І зноў пах дыму, пах і смак суніцаў...

І цёмная начная рака, што плыве за вокнамі ў невядомасць.

Яна і тады, у палацы над Дзвіною, не назвала свайго імя. Што змушала яе так старанна захоўваць incognito? Простая боязь кампраметацыі ці нешта іншае, загадкавае? Хто прысылаў яе? Ён абганяецца ад недарэчнай, бязглуздай думкі, што на хвілю перацінае яму дыханне. Толькі містыкі яму і не хапала...

Не, віцебскую ноч лепей забыць, не ўспамінаць. Лепей не думаць пра тое, што за адзін год краіна гэтай маленькай зеленавокай жанчыны страціла мільён жыхароў. Яму ёсць чым заняць думкі — заўтра ён памяняецца ролямі са сваім двайнікам, падымецца на карабель і ўдыхне вольны вецер Атлантыкі.

Няўжо ў ейных словах была праўда? Калі б ён спыніўся, калі б не пайшоў далей Беларусі, калі б вызваліў сялянаў і даў краіне не папяровую, а сапраўдную незалежнасць, калі б дазволіў Польшчы і Вялікаму княству злучыцца ў федэрацыю... Няўжо тады ён мог бы выйграць расейскую кампанію? Мог бы выйграць наогул, не апынуцца ў выгнанні, кожны дзень бачыць сына і ведаць, што перадасць яму трон?

За Смаленск ён заплаціў дваццацю тысячамі забітых і параненых. У войсках, што абаранялі горад, было шмат яе суайчыннікаў. Узяўшы Смаленск, ён у гневе даў дазвол рабаваць. Дзве тысячы месцічаў схаваліся ў саборы і сядзелі там два тыдні, пакуль горад не абабралі да апошняе ніткі.

Смаленск бараніла і сялянская рушэнне. Сяляне ваявалі не горш ад старых жаўнераў. У той час яны ўжо не зводзілі падрахункі з панамі, не палілі сядзібы і не прыводзілі сабе на дапамогу марадзёраў. Сяляне ўжо страцілі надзею.

Яе словы, сказаныя ў віцебскую ноч, хутка спраўдзіліся. Мужыкі ўзяліся за зброю. Кожны дзень яны забівалі тых, ад каго яшчэ ўчора чакалі паратунку. Забівалі кулямі і штыкамі, а калі не было стрэльбаў — сахарамі, аглоблямі, косамі... Яны зачынілі на замок аблогаю дванаццацітысячны віцебскі гарнізон. Каб ўратаваць гарнізон ад галоднае смерці, ён перад самым Барадзіном мусіў пасланць у Віцебск дзесяць тысяч пяхоты і кавалерыі.

З дна памяці выплылі і насунуліся на яго барадатыя сялянскія твары...

Аднойчы ён загадаў прывесці да сябе палонных партызанаў. Стоўпіўшыся, яны стаялі каля дзвярэй пад наведзенымі рулямі стрэльбаў і маўчалі. Два дні таму яны выразалі атрад фуражыраў, адпусціўшы толькі маркітантку.

Палонныя адмовіліся адказваць на пытанні, і — гэта найбольш уразіла яго — на іх шырокіх тварах быў не страх блізкае смерці, а страшная змрочная радасць. Такую радасць ён бачыў аднаго разу ў трох гішпанскіх юнакоў, амаль дзяцей, якіх расстрэльвалі на горнай дарозе за спуск лавіны, што змяла ў бездань цэлы эскадрон кавалерыі.

Нечакана адзін з мужыкоў, самы нізкарослы і страхалюды, з залітым крывёю лобам і вуглямі шалёных вачэй пачаў штосьці раз'юшана выгукваць. Ён, імператар, загадаў тлумачу-студэнту перакладаць, ды той чамусьці марудзіў, і загад давялося паўтарыць.

— Ваша вялікасць, — запінаючыся прамовіў тлумач, — гэты чалавек... гэты чалавек называе вас апакаліпсічным зверам...

Ён успомніў лісты расейскага Сіноду, якія абвяшчалі яго пасланнікам Люцыпара і якія чыталі ва ўсіх праваслаўных цэрквах.

—Спытайце, дзе ён гэта пачуў? У царкве?

— Ён кажа, — пераклаў тлумач,— што ведае гэта і без папоў.

— Якой ён веры?

— Ён грэка-католік.

— Скажыце, — папрасіў ён тлумача, — што я хачу абараніць яго рэлігію ад расейскіх цароў.

Нізкарослы выкрыкнуў яшчэ колькі словаў і адвярнуўся.

— Што ён сказаў?

— Ваша вялікасць, ён кажа, што... перапрашаю... такія словы немагчыма перакласці... сэнс у тым, што яны спачатку вам верылі, але тая вера ўжо згарэла ў агні. Ён кажа, што вы не абаранілі нават яго дачку.

— Ад чаго яе трэба было бараніць?

Тлумач марудзіць.

— Я слухаю!

— Ён кажа, што вашыя жаўнеры іх было шмат, гвалцілі яго дачку на вачах у маці, пакуль абедзве не страцілі розум.

— Скажы, што французы не маглі зрабіць гэтага.

Мужык, сціскаючы звязаныя вужоўкаю рукі, маўчыць.

— Хто б яны ні былі, яны прыйшлі з вашаю арміяй, — перакладае гэтае маўчанне тлумач.

Імператар адварочваецца ад вусцішных барадатых аблiччаў і кладзецца тварам да сцяны.

У спальню ліецца святло новага дня. На сіняй тканіне, якою абцягнутыя сцены, распускаецца наквець чырвоных ружаў. Ён глядзіць на ружы са страхам. Мо і сапраўды ад гэтых кветак ідзе нячутны водар, які павінен прыспешыць ягоную смерць? Ён здрыганаецца. Ён ужо гатовы паверыць, што ў кожным з тых пахаў, якімі дыхаў дзве апошнія ночы, у паху язміну і дыму, поту ад яе падпашак, у вільготным паху ракі і ў самым непараўнаным — суніцаў, ва ўсім хаваўся водар смерці.

Вялікім намаганнем ён змушае сябе не ўскочыць з ложка і не кінуцца з гэтага прытулку салодкае смерці прэч.

На шчасце, у дзвярах з'яўляецца Маршан.

— Мой імператар, вы памятаеце, які сёння дзень? — пытаецца камердынер, дапамагаючы гаспадару апранацца.

— Ад раніцы дажджлівы, — адказвае ён, пацепваючыся ад холаду ў спальні, — потым, як заўсёды на нашым гнілым востраве, на пару гадзін выблісне сонца. Але нават калі яно сёння адпачывае, мы сустрэнемся ля крыніцы пад вербамі.

Імператар сядае за туалетны столік і пачынае займацца пазногцямі.

— Луі, перадай, каб сняданне падалі ў кабінет.

Выходзячы са спальні, ён глядзіць на абіўку з ружамі і без дай прычыны ўспамінае, што «сінія гусары», якія выйгралі ў тое лета бітву пад Клясціцамі, у чатырнаццатым годзе першыя прайшлі ўрачыстым маршам па Парыжы.

Ён снедае адзін. Яму дастаткова маўклівага дыялога з безыменнай жанчынаю, голас якой несціхана гучыць у ім насуперак волі.

Сурвэтку кратае сонечны прамень. Усё, як зазвычай: дождж, сонца, потым халодны вечаровы туман. Тое самае паўторыцца і заўтра, і паслязаўтра...

Сябры вынайшлі бліскучы план уцёкаў, і ён прымае яго. Праўда, з адной агаворкаю...

Імператары не маюць права хавацца за кулісы.

* Няхай жыве імператар! (франц.).



## Віншуем!

**1 мая споўнілася 60 гадоў вядомаму пісьменніку, члену-карэспандэнту Акадэміі навук БССР Алегу Лойку. «ЛіМ» віншуе Алега Антонавіча з юбілеем, зычыць яму новых творчых поспехаў на карысць роднай літаратуры.**

# ЛІРА І ДУМКА

Са здымка ў невялікім зборнічку на нас глядзіць малады, чарнявы, з інтэлігентнымі рысамі твару чалавек гадоў трыццаці ці трошкі старэйшы. Тоненькая кніжачка называецца «Дарогі і летуценні». Яе аўтар Алег Лойка.

Сёння Алегу Антонавічу Лойку, вядомаму паэту, прафесару, загадчыку кафедры беларускай літаратуры БДУ, члену-карэспандэнту АН БССР, споўнілася шэсцьдзесят гадоў.

Трошкі сумна з гэтай нагоды. Тоненькіх кніжачак, якія мелі прыгожыя паэтычныя назвы — «Задуменныя пралескі», «Блакітнае азерца», «Каб не плакалі кані»— ён болей не выдае, чым далей, тым болей салідны фармат набываюць ягоныя кнігі, і вось-вось, здаецца, павінен убачыць свет двухтомнік выбранай паэзіі.

Алег Лойка — пранікнёны лірык. Ён умее ўвасобіць у паэтычным радку тонкія імгненні і зрухі чалавечай душы, добра адчувае прыгажосць прыроды, навакольнага свету. Ён вельмі пачуццёвы, эмацыянальны і разам з тым у яго паэзіі прысутнічае значны разумовы, інтэлектуальны элемент.

Тым часам, калі можна сказаць так, ад паэтаў-авангардыстаў Лойка адрозніваецца істотна. Ён чуйны да звіваў-пераліваў народнай песні, яе мелодыка прысутнічае ў ягонай паэзіі вельмі адчувальна. Так, паэзія Лойкі раскаваная ў сэнсе рытмікі, інтанацыйнага малюнка, жанравых межаў. І ў той жа час паэт цягнецца не толькі, скажам, да фальклору, размоўнай інтанацыі, а і да класічнай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

**Мы — сосны Купалы,**
**з-над вольнай Арэсы,**
**Іван Дамінікавіч, дзе ты?**
**Чакаем, чакаем... О, колькі**
**абтрэслі**
**Шылля мы і шышак**
**над светам!..**
**(«Сосны Купалы»)**

Дыяпазон дачынення паэзіі Лойкі да свету шырокі, як шырокая, скажам, і «геаграфія» ягоных вершаў. Вершаў-водгукаў, прынесеных з розных вандровак, у яго шмат. Нямала сярод іх і сярэдніх па якасці, так званых «прахадных». Аднак у лепшых сваіх творах Лойка застаецца цікавым, арыгінальным паэтам, які ўмее знайсці запамінальную дэталь, інтанацыю, умее ўсміхнуцца, пажартаваць.

**Жыў закаханы студэнт,**
**Цяжка было студэнту;**
**Высах студэнт ушчэнт,**
**А потым не стала і шчэнту...**
**(«Жыў закаханы студэнт»)**

Працягнем гаворку пра студэнтаў. Пачынаў Алег Лойка як тыповы прадстаўнік «філалагічнага пакалення», якое заявіла пра сябе ў пяцідзесятых-шасцідзесятых гадах. Аднагодкі паэта не сядзелі ў акопах, не хадзілі ў атакі, але яны, няхай сабе ў дзіцячым узросце, перажылі вайну, і гэта быў найбольшы іх сацыяльны і духоўны вопыт. Не было б гэтага вопыту, не было б шматлікіх зборнікаў Алега Лойкі, якія з рэгулярнай паслядоўнасцю выходзяць у свет на працягу больш трыццаці гадоў, узбагачаючыся зместам, якасцю вершаў.

Вядомы Алег Лойка не толькі як паэт. Ён больш як трыццаць пяць гадоў выкладае беларускую літаратуру ў БДУ.

Паэзія — пані далікатная, зваблівая, сіняя птушка, але, на жаль, сваіх ахвярнікаў яна корміць не надта. Асабліва на пачатку дарогі. Таму тыя выпадкі (а яны ёсць), калі пісьменнікі займаюць пасады выкладчыкаў на літаратурных кафедрах, трэба толькі вітаць. Бо ў аўдыторыі да студэнтаў выходзяць людзі з божай іскаркай таленту, прызвання, яны сэрцам адчуваюць, што такое прыгожае пісьменства, і могуць лепш, чым хто, запаліць у душах выхаванцаў свяшчэнны агонь захаплення гармоніяй і прыгажосцю.

Калі лекцыі студэнтам чытае паэт, то гэта не проста лекцыі. Гэта літаратурная імправізацыя, калі хочаце, цудадзеянне, дзе кожны раз узнікаюць новыя думкі, вобразы, знаходкі. Такая актыўная работа не прападае дарма ні для студэнтаў, ні для выкладчыка.

Вынік мы маем. З Лойкавых лекцый, з яго даследчай работы, роздуму над літаратурай выраслі шматлікія крытычныя кнігі, адтуль бяруць вытокі двухтомная «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і — самае галоўнае — дзякуючы тым эмацыянальным лекцыям нарадзіліся раманы-эсэ пра Янку Купалу і Францішка Скарыну. Яны прынеслі пісьменніку, бадай, найбольшы літаратурны поспех.

Гэта сур'ёзныя кнігі. Лойка, напрыклад, здолеў глыбока ўвайсці ў свет Купалы, багаты, шматфарбны, і спраецыраваць гэты свет на асабістае жыццё вялікага паэта. І, бадай, толькі паэт быў здольны адважыцца на такі смелы крок. Бо ў жыццёпісе Купалы нямала «белых плям», нявывучаных момантаў, нават перыядаў. Дзе не хапала фактаў, выручала фантазія паэта-даследчыка. Скажыце, а хіба сама літаратура не з'яўляецца марай, летуценнем, фантазіяй? Так што мастацкі вымысел у дадзеным выпадку справе не пашкодзіў.

Глыбока вывучыў пісьменнік нашу старажытную літаратуру, дух яе «предания», і з гэтага нарадзілася адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР кніга пра Францыска Скарыну, вялікага беларускага першадрукара, гуманіста і асветніка.

Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры кнігі Алега Лойкі пра Купалу і Скарыну выйшлі ў Маскве ў вядомай серыі «ЖЗЛ», стаўшы набыткам усесаюзнага чытача.

Лойка перакладае з польскай, нямецкай і французскай моў, і ёсць кнігі ягоных перакладаў. Ён выступае як па пытаннях бягучага літаратурнага жыцця, так і па глыбінных, тэарэтычных праблемах літаратуразнаўства. Не, ён не раскідваецца. Усё гэта заканамерна ляжыць у зоне ягоных творчых інтарэсаў, як бачым, даволі шырокіх і разнастайных.

Ён любіць лес. Апантана збірае грыбы, захапляецца рыбалкай. Часта ездзіць у Слонім, горад свайго дзяцінства, юнацтва, прывозячы адтуль новыя творчыя задумы.

Няма сумнення, пісьменнік не да канца ажыццявіў свае творчыя планы і сяганні. Вышыня, якой дасягнуў, няхай дапаможа яму іх здзейсніць, напісаць новыя кнігі, асветленыя мудрым жыццёвым вопытам.

Іван НАВУМЕНКА.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# ЯК ПАБУДАВАЦЬ ВЕЖУ

Шмат стагоддзяў назад людзі, якія жылі на месцы старажытнага Вавілона, вынайшлі цэглу і пачалі будаваць велізарную вежу. І так яны заганарыліся, што вырашылі будаваць яе вышынёй да самага неба. Але гэта ці нешта іншае не спадабалася Богу, і ён змяшаў мовы будаўнікоў. Людзі перасталі разумець адзін аднаго і ў хуткім часе разышліся па Зямлі, так і не здзейсніўшы сваю мару.

З тых часоў шмат хто спрабаваў пабудаваць «Вавілонскую вежу». Вось і зараз на нашых вачах разбураецца гэткая ж вежа пад назвай СССР.

**Але чаму так адбываецца? Чаму не здолелі ўтрымацца ні Егіпецкае, ні Вавілонскае царства, ні імперыя Аляксандра Македонскага, ні Свяшчэнная Рымская імперыя? Прычым, зніклі не толькі яны, зніклі нават мовы тых калісьці вялікіх народаў, што сілай зброі «аб'ядналі» вакол сябе суседзяў.**

Ці даў бы веры Цэзар, што будучым на яго мове будуць толькі прапісваць лекі хворым? Чаму ж так адбылося, што ні чым, здавалася б, непрыкметныя, увесь час прыгнечаныя народы перажылі тысячагоддзі, а тыя, што зваліся вялікімі, зніклі разам са сваёй мовай? Калі гэта кара за грахі, то каб выратавацца, трэба пакаяцца. Але відавочна, што каяцца ніхто не збіраецца, бо нават не ведае, у чым той грэх.

Я таксама не ведаю, але дазвольце паразважаць на гэтую тэму.

**Здаецца мне, што не тое раз'юшыла Госпада, што людзі вырашылі будаваць вежу да неба. Ён вырашыў даць людзям выпрабаванне: калі здолееце знайсці паразуменне, гаворачы на розных мовах, тады й будуйце сваю вежу. Вось з тых часоў чалавецтва і шукае агульную мову.**

**Але надта ўжо дзіўна шукае. Чамусьці лічыцца, што для агульнай згоды трэба знішчыць усе мовы (часам разам з іх носьбітамі) і пакінуць адну. Спрэчкі вядуцца толькі аб тым, якой яна павінна быць: англійскай, нямецкай, рускай або эсперанта. Вось і ў нас увесь час робяць рускую мову агульнай для ўсіх народаў СССР, а другія мовы хай паціху, але абавязкова гінуць. І ўсё гэта нібыта дзеля таго, каб дасягнуць адзінства, каб пераадолець непаразуменне паміж людзьмі. Але на чужой бядзе шчасця свайго не пабудуеш.**

Усім вядомы пералік смяротных грахоў, які Бог пакінуў людзям. Здаецца мне, што самы страшны грэх народа — знішчыць або асіміляваць другі народ.

А на кім, скажыце, ляжыць грэх за знікненне за 73 гады савецкай улады больш як 50 моў народаў СССР? Гэты грэх — недаравальны. Адцураліся роднай мовы, адцураліся дара боскага і многія беларусы. Гэта грэх самазабойства. За яго мы плацім больш за іншых. Плацім сваімі невылічальнымі стратамі пад час войнаў паміж іншымі дзяржавамі, плацім прыніжанай годнасцю, плацім вядомай талерантнасцю, якая даўно пераўтварылася ў бесхрыбетнасць, плацім яшчэ шмат чым. Але ёсць ужо і апошняе папярэджанне — Чарнобыль.

**Трэба прыкласці ўсе намаганні, каб выратавацца, каб адрадзіцца як нацыі, выратаваць мову і культуру. Трэба маліцца Богу аб дараванні, але й маліцца па-беларуску, на той мове, якую Ён нам даў.**

**Нічога не атрымаецца, калі кожны беларус свядома не возьмецца за працу адраджэння, не пачне з сябе, са сваіх сваякоў.**

Гэта шанц не толькі для беларусаў, але і для рускіх, якія жывуць разам з намі. Відаць, найлепшым для іх было б самім уключыцца ў справу адраджэння беларускай нацыі, на справе паспрабаваць выправіць тыя памылкі, што не без іх дапамогі рабіліся. Можа, тады мы здолеем пачаць разам будаваць Вежу, бо будзем разумець і паважаць адзін аднаго, нягледзячы, што адны гавораць па-руску, а другія па-беларуску.

Уладзімір СТАРЧАНКА.
г. Гомель.

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# А ДАЛЕЙ — КУДЫ?

Кніга публіцыстыкі «Набат з будучыні» (укладальнік І. Рыжкоў), выпушчаная выдавецтвам «Беларусь», канечне ж, пра нашы сённяшнія праблемы. Пра тое страшнае, што ўжо прынёс з сабой Чарнобыль і экалагічная непісьменнасць усіх нас, якая мяжуе са злачыннасцю, хоць і не заўсёды юрыдычнай, але маральнай. Але, як бачна з назвы зборніка, гэта і спроба глянуць на шмат гадоў наперад, паспрабаваць уявіць сабе, да чаго прывядуць і вынікі Чарнобыля, і ўвогуле пагардлівае стаўленне да прыроды, да ўсяго жывога на зямлі, калі ўжо сёння, не адкладваючы на заўтра, не паспрабаваць зрабіць хоць самае малое, каб уратаваць Чалавека на планеце і саму Зямлю.

**Матэрыялы, сабраныя тут, не сказаць каб надта кідкія. Там, дзе гаворка тычыцца лёсавызначальных пытанняў, не да эмоцый, не да публіцыстычнай гучнасці. Тут больш прыдатны цвярозы аналіз трывожнага становішча, аргументаваная размова аб тым, што зрабіць, каб калі не спыніць цалкам скатванне ў экалагічную прорву, дык, у крайнім выпадку, затрымаць яго.**

**Адна з першых публікацый — «Зона асобай увагі», якая падагульняе тыя рашэнні адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання, што тычацца прыняцця Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Раздзелы з чарнобыльскага блакнота В. Бацкалевіча «Адсяленне» — рэпартаж з пярэдняга краю, з Краснапольскага раёна. —жна сказаць, з раёна былога, таму на гэтай тэрыторыі ўздзеянне радыяцыі да таго моцнае, што жыць тут немагчыма. Скупыя і ўражлівыя факты. Аўтарская трывога і боль тых, з кім ён сустракаўся, гутарыў. Надзея адных і страчаная надзея ў тых, хто стаміўся ўжо верыць у нешта лепшае.

Боль Чарнобыля і экалагічная бяда ў цэлым — тэма развагі народнага мастака СССР М. Савіцкага «Памятаць ікону мінулага» (гутарыла з ім журналістка С. Хорсун). Слынны майстар гаворыць аб бедах народа, узнімае голас у абарону заложнікаў Чарнобыля, разважае аб тым, як літаратура, мастацтва павінны ў гэты цяжкі і складаны для ўсяго грамадства час знаходзіць сілы, каб праўдзіва адлюстраваць народную трагедыю, народны боль. Расказвае М. Савіцкі і пра сваю працу над цыклам, які назваў «Чорная быль».

**Поруч — іншыя публікацыі, якія нельга чытаць спакойна. У іх роздум аб набалелым, у іх спроба знайсці адказ і для самога сябе і для іншых на пытанне: «Куды ж мы, людзі, ідзем, калі так настойліва, не задумваючыся сячэм сук, на якіх самі ж сядзім?». «Азірніся на зямлю сваю», — заклікае В. Якавенка ў артыкуле, прыводзячы шматлікія факты нашай безгаспадарчасці, пасыннавасці ў адносінах да прыроды. Ён жа, В. Якавенка, у інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА «Кожны павінен стаць экологам» гаворыць аб задачах, што ставіць перад сабой Беларускі экалагічны саюз. А вось В. Мыслівец («Настальгія па лесу») узнімае голас у абарону нашага зялёнага сябра. А якія «букеты» падносяць рэспубліцы Салігорскія калійныя руднікі?! Пра гэта — у нататках А. Петрашкевіча і М. Образава, якія так і называюцца «Салігорскі букет».**




**На старонках зборніка чуцен голас журналістаў, спецыялістаў-навукоўцаў, адказных міністэрскіх работнікаў... Кожны з іх быццам разумее, што далей, як нажуць, ісці нельга. Міжволі задумваешся: чаму ж тыя навукоўцы ды міністэрскія работнікі, калі даходзіць да справы, на многае заплюшчваюць вочы?. Тады і пачынаюць праводзіцца ў жыццё сумнівальныя навуковыя праекты, тады і ператвараецца ў пустыню Палессе...**

**Гэтую страшную хваробу ці не найлепей вызначыла народная артыстка БССР Л. Давідовіч. Яе гутаркай з І. Рыжковым завяршаецца кніга — «Экалогія маральнасці»: «...несумненна, вырашэнне экалагічных праблем напрамую звязана з вырашэннем праблем агульнай культуры нашага грамадства, а адсюль — і эканамічных, і сацыяльных! Дык давайце ж нарэшце зоймемся сваёй культурай!»**

Ілюструюць зборнік горкія здымкі. Патрэсканая ад сухменю глеба... Заводскія коміны, якія чорнай павалокай абвілі наваколле... Горы смецця на ўзлеску... Паваленыя дрэвы, а побач — кучы металалому... Дажыліся. Далей, і праўда, няма куды. Дык, можа, задумаемся, апамятаемся?

А. АН-ЕВІЧ.

## Віншуем!



**80 гадоў — Пятру РУНЦУ. Калектыў штотыднёвіка віншуе Пятра Міхалаевіча са слаўным юбілеем, зычыць яму яшчэ доўгіх гадоў жыцця, новых твораў.**

### НАШ КАЛЯНДАР

●

**7 мая — 140 гадоў з дня нараджэння Рабіндраната ТАГОРА, індыйскага пісьменніка і грамадскага дзеяча, творчасць якога вядома ва ўсім свеце (памёр 7 жніўня 1941 года). Паэтычны зборнік Р. Тагора «Гітанджалі» ў свой час прыцягнуў увагу М. Багдановіча, які прарэцэнзаваў яго ў газеце «Голос» (Яраслаўль, 15 сакавіка 1914 года). Творчасць Р. Тагора яшчэ ў 1910-ыя гады прапагандавала газета «Гомельская мысль». У савецкі час творы пісьменніка неаднаразова перакладаліся на беларускую мову, выходзілі і асобнымі выданнямі.**

●

**13 мая — 50 гадоў з дня нараджэння Анатоля СЕРБАНТОВІЧА (памёр 21 сакавіка 1970 года). Нягледзячы на малады ўзрост, пакінуў прыкметны след у літаратуры, аб чым сведчаць зборнікі паэзіі «Азбука», «Мінная поле», «Пярсцёнак». Найбольш поўнае ўяўленне аб творчасці А. Сербантовіча дае кніга «Жаваранак у зеніце», выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура». У яе ўвайшлі і раней неапублікаваныя творы.**

●

**27 мая — 120 гадоў з дня нараджэння беларускага этнографа, фальклорыста і археолага Ісака СЕРБАВА (памёр 21 студзеня 1943 года). На аснове калекцыі І. Сербава ў 1951 годзе выдадзены альбом «Беларускае народнае мастацтва». Акрамя запісаў фальклору, першым у беларускай этнаграфіі займаўся фатаграфаваннем у час экспедыцый. Захавалася каля 450 здымкаў, якія адлюстроўваюць побыт і культуру народа.**

●

**65 гадоў з дня ўтварэння Беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша». Існавала з 26 мая 1926 года да снежня 1931 года. Ініцыятары стварэння — былыя маладняковцы А. Бабарэка, У. Дубоўка, К. Крапіва, Я. Пушча, К. Чорны. Выдаваўся часопіс пад аднайменнай назвай (1927—1930). Вульгарызатарская крытыка лічыла «Узвышша» варожым сацыялізму, хоць асноўным лозунгам яго членаў была барацьба за высокую эстэтычную культуру творчасці.**

●

**30 гадоў з дня заснавання выдавецтва «Ураджай». Сярод спецыяльных кніг пэўнае месца ў планах займаюць выданні па пытаннях паркавай культуры, аховы навакольнага асяроддзя. Выпускае і мастацкія творы, якія карыстаюцца павышаным попытам.**

# Барацьбіт — і будаўнік

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Клаўдзія ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА

Першыя праблiскі нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі мы назіраем яшчэ ў XIX стагоддзі. Такія гістарычныя постаці, як Кастусь Каліноўскі ці Францішак Багушэвіч — гэта вехі паступовага ўзнікнення ў беларускім народзе нацыянальнага самаўсведамлення. Пачынаецца працэс адраджэння пасля векавога занепаду, узнікае канцэпцыя, што народ, які праз вякі захаваў у гушчы сялянскіх мас сваю моўную, звычаёвую і этнічную адметнасць, які захаваў сваю культуру ў форме багатага самабытнага фальклору, мае права існаваць як самастойная раўнапраўная нацыя. Гэты працэс асабліва набірае сілу на пераломе стагоддзяў і ўрэшце ствараецца трывалы вызваленчы рух, вынікам якога стала прызнанне беларусаў за народ, прызнанне яго права на самавызначэнне і суверэнітэт, дасюль яшчэ канчаткова не рэалізаванага.

Шлях барацьбы за прызнанне быў нялёгкі. Гэтай барацьбе аддалі свае сілы лепшыя сыны Беларусі, змагаючыся з сіламі рэакцыі за лепшую будучыню свайго народа. Жорсткія рэпрэсіі і крывавыя расправы, матэрыяльная незабяспечанасць і невылечныя хваробы, набытыя дзякуючы цяжкім варункам жыцця ці ў турмах, неўладкаванасць у часы войнаў і разруху ўсцяж выбівалі з радоў змагароў за разняволенне беларускага народа найбольш актыўных і самаахвярных.

Вельмі крыўдна, што імёны многіх такіх змагароў былі цалкам забыты ў гады тэрору і нацыянальнага нігілізму. І ўсё ж сягонння, нягледзячы на дужа неспрыяльнае становішча на Беларусі ў адносінах да захавання гістарычнай спадчыны народа і яго роднай мовы, дзякуючы напорыстасці прагрэсіўных навукоўцаў пакрысе вяртаюцца народнай памяці імёны многіх, некалі свядома забытых дзеячаў вызваленчага руху.

Да такіх дзеячаў можна бясспрэчна залічыць і Клаўдзія Сцяпанавіча Дуж-Душэўскага. У яго асобе вельмі своеасабліва і гарманічна спалучыўся беларускі грамадска - палітычны дзеяч і шырока вядомы літоўскі архітэктар-будаўнік. Нарадзіўся ён 26 красавіка 1891 года ў Глыбокім, скончыў рэальную гімназію ў Вільні. Яшчэ тады пачаў фарміравацца яго светапогляд дзякуючы сувязям з рэдакцыяй газеты «Наша Ніва». Але пачатак яго больш актыўнай грамадскай дзейнасці адносіцца да часу вучобы ў Пецярбургскім горным інстытуце.

Як вядома, менавіта ў Пецярбурзе сярод студэнтаў, выхадцаў з Беларусі, зарадзіліся першыя грамадскія культурна-асветныя і падпольныя палітычныя арганізацыі, якія ахоплівалі сваім уплывам і рабочых-беларусаў горада. Душэўскі належаў да таго самага прагрэсіўнага асяроддзя, да якога належалі Янка Купала, Цётка, Браніслаў Тарашкевіч, вядомы апякун беларускай моладзі Браніслаў Эпімах-Шыпіла ды многія іншыя, выдатная роля якіх у нашым адраджэнскім руху сёння ўжо нікім не аспрэчваецца. Пра гэта згадвае ў артыкуле Аляксея Каўкі «Шлях да бацькаўшчыны» з Беларускага календара на 1985 год (БГКТ — Беласток, ст. 133—134): «Асабліва прыкметны след пакінуў па сабе навукова-літаратурны гурток студэнтаў-беларусаў пры Пецярбургскім універсітэце (1912—1914 гг.). Фармальна гурток быў зарэгістраваны універсітэцкімі ўладамі ў снежні 1912 г., але праца яго ўдзельнікаў (Б. Тарашкевіч, А. Бычкоўскі, Я. Хлябцэвіч, К. Душэўскі, Л. Аляксюк і інш.) пачалася некалькімі гадамі раней. Станоўчы ўплыў на пачынанні гуртакоўцаў аказваў Янка Купала пад час сваёй вучобы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева. Вялікую дапамогу аказваў гуртку Браніслаў Эпімах-Шыпіла — бібліятэкар універсітэцкай бібліятэкі, выдатны збіральнік рукапісных твораў беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца».

Душэўскі прымаў удзел у рэдагаванні беларускіх часопісаў, што выходзілі ў Пецярбурзе, быў адным з актыўных змагароў за беларускую дзяржаўнасць, удзельнічаў у многіх усебеларускіх з'ездах і кангрэсах. У пратаколе з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый у Менску 25—27 сакавіка 1917 года чытаем: «Ад петраградскіх беларусаў-народнікаў прывітаў з'езд Дубяйкоўскі, жадаючы яму карысці ў гэтай вялікай працы. Клаўдзій Душэўскі ад імя моладзі петраградскіх вышэйшых школ таксама шчыра вітаў з'езд». Між іншым, варта адзначыць, што якраз у гэтым з'ездзе ўдзельнічалі такія выдатныя прадстаўнікі нашага вызваленчага руху, як Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Максім Багдановіч, Браніслаў Тарашкевіч, Янка Купала, Людвіка Сівіцкая, Паўліна Мядзёлка, Уладзіслаў Галубок, Алесь Бурбіс, Фабіян Шантыр, Карусь Каганец і шмат іншых. (гл. «Спадчына» № 4, Мінск, 1990 г.).

У міжваенным часе Клаўдзій Душэўскі жыў у Коўне, у тагачаснай сталіцы Літвы. Праявіў сябе як здольны інжынер-будаўнік (пасля Пецярбургскага горнага інстытута ён скончыў яшчэ і будаўнічы факультэт Ковенскага універсітэта). Жывучы ў Коўне, быў вядомы не толькі як архітэктар, не толькі пакінуў свой след у архітэктуры тагачаснай Літвы, але быў шырока знаны ў беларускім асяроддзі ў Коўне, рэдагаваў беларускую прэсу, займаўся кнігавыдавецтвам, гуртаваў вакол сябе землякоў, дапамагаў ім маральна і матэрыяльна. Дакументальным сведчаннем гэтай яго дзейнасці з'яўляюцца выдадзеныя ў дваццатых гадах у Літве беларускія часопісы, кнігі, у тым ліку беларускія слоўнікі і школьныя падручнікі. Па меры магчымасці не траціў ён сувязі і з суайчынікамі ў Заходняй Беларусі.

**У кніжцы Максіма Танка «Лісткі календара» ёсць гэткая нататка пад датаю 1-га снежня 1938 г.: «З Каўнаса К. Дуж-Душэўскі прыслаў у музей цэлую пачку школьных падручнікаў. Некаторыя з іх былі ім самім перакладзены на беларускую мову і з'яўляліся каштоўнай дапамогай для моладзі, якая вучылася па старых, даваенных рускіх і польскіх падручніках. Мова яго перакладаў была жывая, зразумелая, народная. Я запісаў яго адрас: Каўнас, Лайсвес алея 72, каб перадаць яго нашым хлопцам. Можа, і ім дапаможа сваімі кнігамі. К. Дуж-Душэўскі працуе ў Каўнасе адным з галоўных архітэктараў. Матэрыяльна забяспечаны. Дзякуючы яго дапамозе і музей сяк-так яшчэ можа існаваць. Апошні раз, калі ён наведаў Вільню, паказаў мне «Зямлю карміліцу» П. Цвіркі, зборнікі вершаў Гіры, Інгуры, Нярыс, «У цяні аўтароў» Пуцінаса. У Вільні ён, здаецца, хацеў знайсці перакладчыкаў з літоўскай на беларускую мову і некаторыя з гэтых кніг выдаць».**

Паколькі ў беларускіх крыніцах, бадай, нельга знайсці біяграфічных звестак пра Дуж-Душэўскага, дык сёння хіба найбольш змястоўны матэрыял прапануе нам «Літоўская Энцыклапедыя» (выдавецтва «Спаудос фондас», Коўна, 1939, т. 7, ст. 266—267). У артыкуле, прысвечаным Душэўскаму, паведамляецца: «З маленства далучыўся да традыцый барацьбы з царскай расейскай уладай (яго прадзед з матчынага боку Урублеўскі, згінуў у паўстанні 1831 г., а дзед Высоцкі згінуў у паўстанні 1863 г.), яшчэ вучнем пачаў удзельнічаць у беларускай грамадскай працы, а з 1909 г. супрацоўнічаючы ў газеце «Наша Ніва». У Пецярбурзе з 1912 г. кіруе беларускімі студэнтамі. У 1913 г. рэдагаваў зборнік «Раніца» і быў прадстаўніком ад беларусаў на падпольнай студэнцкай канферэнцыі. У 1915 г. разам з Тарашкевічам і Будзькам рэдагаваў газеты «Дзянніца» і «Светач». У 1916 г. удзельнічаў у так званым Усерасійскім дэмакратычным з'ездзе ў Пецярбурзе, а ў Менску разам з іншымі арганізаваў газету «Вольная Беларусь». У 1916—1919 гг. удзельнічаў ва ўсіх беларускіх канферэнцыях і з'ездах. У 1919 г. разам з іншымі арганізаваў у Вільні газету «Беларуская Думка» і быў членам яе рэдакцыі. У 1918—1921 гг. актыўна ўдзельнічаў у арганізаванні Беларускай Рэспублікі; у 1919 г. быў старшынёй Беларускай Рады Вільні і Гародні, пазней прадстаўніком беларусаў Прыбалтыкі, адным з беларускіх міністраў. У 1919 г. нейкі час працаваў у Менску, пасля ў Вільні, дзе быў адным з арганізатараў кааператыўнага саюза.



К. ДУЖ-ДУШЭЎСКІ разам з жонкай. Вільня, 1919 г.

У 1922 г. рэдагаваў у Коўне «Беларускі сцяг»; у 1923 г. разам з В. Ластоўскім і інш. арганізаваў у Коўне Беларускі Цэнтр, а ў 1923—1927 гг. з Ластоўскім рэдагаваў часопіс «Крывіч»; у 1933—1936 гг. рэдагаваў «Беларускі Асяродак».

Працаваў інжынерам па будаўніцтве ў міністэрстве замежных спраў Літвы з 1923 да 1931 г., а затым у міністэрстве транспарту. Пабудаваў у Літве многа вялікіх будынкаў (кіно «Метрапалітэн» у Коўне, фабрыку беконаў у Паневежы, халадзільнік «Майстас» у Клайпедзе і інш.). У 1929 г. з інжынерамі Гаршва і Гайгалісам рэдагаваў часопіс «Тэхніка і гаспадарка». Надрукаваў палітоўскую артыкул «Беларусы і Вільня» — 1934 г. (псеўданім К. Гудас), падручнік будаўнічых работ — 1930 г., «Паліва для ацяплення» — 1935 г. і інш.; у перакладзе на беларускую мову «Падручнік гісторыі» Віпэра — 1925 г., «Батаніка» Зяленскага — 1924 г. і інш. Супрацоўнічаў, акрамя беларускай, яшчэ ў нямецкай і расейскай прэсе. Падпісваўся К. Гудас, К. Д., Кл. Д., Ка Дэ і інш.».

У 1940 г. з узнікненнем Савецкай Літвы Душэўскі ў новых варунках працягвае паспяхова працаваць у галіне сваёй прафесіі будаўніка. Але хваля арыштаў беларускіх дзеячаў на падставе неабгрунтаваных абвінавачанняў, характэрная для Беларусі ў трыццатых гадах, дакацілася і да Коўна. Сярод многіх іншых яе ахвяраю стаўся і Душэўскі. Ён быў арыштаваны і знаходзіўся ў астрозе ў Коўне. З пачаткам вайны зняволеных не паспелі вывезці на ўсход і такім чынам ён апынуўся на волі. Але не надоўга. За дапамогу савецкім грамадзянам, як паведамляе Літоўская савецкая энцыклапедыя 1966 г., ён быў арыштаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі і накіраваны ў канцэнтрацыйны лагер у Правянішках. Вярнуўся дамоў толькі пасля вызвалення тэрыторыі Літвы ад акупантаў. Аднак і пасля вызвалення нягоды яго жыцця на гэтым не скончыліся. Ён быў зноў рэпрэсіраваны. Толькі г. зв. адліга сярэдзіны пяцідзесятых гадоў прынесла яму ўрэшце канчатковае вызваленне. Засталося толькі надломленае здароўе ды ў вачах уладаў нейкая невыразная «цёмная пляма на жыццяпісе...».

Аўтар артыкула ў згаданай ужо літоўскай энцыклапедыі 1966 г. дыпламатычна абмінае гэты адрэзак яго жыцця. Даведваемся толькі з гэтай крыніцы, што ён зноў актыўна ўключыўся ў сваю прафесійную працу будаўніка. Працаваў дацэнтам на будаўнічым факультэце Ковенскага універсітэта і галоўным інжынерам праекта ў інстытуце «Літбудпраект». Найважнейшыя працы Душэўскага ў пасляваенным перыядзе — гэта карпусы фабрыкі «Пяргале», Таўрагскай фабрыкі цэглы, дахоўкі і дрэнажных труб; ён таксама адзін з аўтараў станкабудаўнічага завода «Жальгірыс» у Новай Вільні.

Памёр Душэўскі ў 1959 годзе, ва ўзросце 68 гадоў.

Біяграфічны матэрыял пра Дуж-Душэўскага амаль зусім не распрацаваны і чакае свайго даследчыка — аб'ектыўнага, без дагматычных комплексаў, без кан'юнктурнай абмежаванасці. Душэўскі ўяўляе сабой яшчэ адну цікавую постаць з кагорты дзеячаў беларускага вызваленчага руху, вартую ўвагі нашых сучасных даследчыкаў, пры гэтым постаць, цесна звязаную з суседняй братняй нам Літвою.

Мэта гэтай публікацыі будзе дасягнута, калі яна дапаможа знайсці напрамак далейшых пошукаў. Значнасць асобы Клаўдзія Дуж-Душэўскага дазваляе меркаваць аб мэтазгоднасці стварэння пра яго грунтоўнай манаграфіі з асвятленнем яго дзейнасці і як будаўніка, і як грамадскага дзеяча.

**Лявон ЛУЦКЕВІЧ.**
г. Вільня.

вукі, культуры, палітычных дзеячаў. Пісьмы, паштоўкі, фотаздымкі захаваныя ў асабістым архіве, будуць нагадваць пра той асяродак, у якім праходзіла жыццё чалавека, захаваюць памяць аб дарагіх яму людзях, ці, наадварот, пра тое, што ўскладняла ягонае жыццё. Так, як, скажам, сёння расказваюць апублікаваныя пісьмы Уладзіміра Караткевіча пра драматызм творчага і асабістага лёсу пісьменніка. І мы лепш разумеем яго творчасць.

УСЯ ВЯЛІЗНАЯ, карпатлівая работа па зборы і захаванні спадчыны мае сэнс толькі тады, калі тое, што ёсць, выкарыстоўваецца дзеля карысці грамадства. Таму, безумоўна, маюць рацыю ўсе тыя, хто выступае супроць усялякіх «спецхранаў» і «спецфондаў». Але ёсць і іншыя праблемы гэтай справы. Яшчэ і сёння мы не можам як след усвядоміць, што інфармацыя ў сучасным свеце стала матэрыяльнай сілай. Таму ва ўсіх цывілізаваных краінах наяўнасць і магчымасць хуткага пошуку інфармацыі ўспрымаюцца як найбольш каштоўнае нацыянальнае багацце. І такі падыход прымяняецца не толькі да навукова-тэхнічнай, але і да рэтраспектыўнай (гістарычнай) інфармацыі. Вучоныя-гісторыкі не сядзяць там у архівах месяцамі, а то і гадамі, каб знайсці і перапісаць неабходныя звесткі. Да іх паслуг ЭВМ і тэхніка для капіравання.

Людзі з высокімі вучонымі ступенямі павінны марнаваць свой час на тое, каб высветліць, напрыклад, у якой бібліятэцы ці архіве ў Мінску ёсць патрэбныя дакументы, газета, часопіс. А ці не лепш было б, каб у кожным сховішчы былі даведнікі не толькі пра свае матэрыялы, але і пра фонды іншых сховішчаў? Каб такія даведнікі можна было б свабодна набыць для асабістага карыстання? У нас жа большую частку свайго жыцця вучоны страчвае на пошук інфармацыі на першай ступені, а для навуковага аналізу і развіцця самой навукі застаецца менш часу і сіл. У выніку страчвае не толькі чалавек, але найперш усё наша грамадства. Пошук інфармацыі на першай ступені, на маю думку, павінен рабіць малодшы навуковы персанал, а іменна супрацоўнікі архіваў, музеяў, бібліятэк. Трэба забяспечыць гэтыя ўстановы неабходнай колькасцю кадраў, каб яны маглі больш увагі аддаваць складанню даведнікаў, каталогаў, вопісаў, арганізацыі іх выдання. Кожная чытальная зала павінна быць забяспечана тэхнічнымі сродкамі капіравання. Добра было б архівам і бібліятэкам мець ксеракопіі найбольш цікавых матэрыялаў для выдачы даследчыкам для хатняга карыстання.

Час сур'ёзна падумаць пра тое, каб сабраць у рэспубліцы ў арыгіналах ці копіях беларускі перыядычны друк. Неабходна адшукаць і скапіраваць у Маскве ўсе экземпляры даваеннай «Літаратуры і мастацтва», бо зараз поўнага камплекту ў рэспубліцы няма.

Магчымасці для найбольш эфектыўнага выкарыстання спадчыны забяспечыла б шырокае прымяненне тэхнічных сродкаў запісу і пошуку інфармацыі ў галіне культуры. Дзяржаўныя архівы, музеі, бібліятэкі павінны быць імі забяспечаны ў дастатковай колькасці.

На заканчэнне хацелася б яшчэ раз падкрэсліць, што збіраць і прапагандаваць гістарычную спадчыну сёння для нас жыццёва неабходна. Паказаўшы свайму разняволенаму народу тое, што ён мае слаўнае мінулае, глыбокія гістарычныя карані, мы сцвердзім купалаўскую мару пра пачэсны пасад Беларусі між іншымі народамі. Нацыянальная кансалідацыя, умацаванне нацыянальнай самасвядомасці ўяўляюцца мне найбольш рэальным шляхам да лепшай будучыні.

**Ганна СУРМАЧ,**
**дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР.**

# СЛОВА ПРАЎДЗІВАЕ, МУЖНАЕ

**Кнігі Мікалая Чаргінца карыстаюцца ў чытачоў папулярнасцю. Пра што б ён ні пісаў—пра справы работнікаў крымінальнага вышуку, пра гераізм воінаў, якія не па сваёй волі аказаліся ў далёкім Афганістане, — ён нічога не «сачыняе». Яму не трэба гэтага рабіць. Генерал-маёр міліцыі М. Чаргінец пачынаў інспектарам крымінальнага вышуку, працаваў на розных адказных пасадах, тры гады выконваў інтэрнацыянальны абавязак у ДРА. Таму і ўсе яго героі — з самога жыцця.**

**Гэта неаднаразова падкрэслівалася ў час творчага вечара М. Чаргінца ў Доме літаратара. Пра тое ж, што талент пісьменніка знаходзіць жаданую дарогу да чытацкіх сэрцаў і душ, найлепей сведчыла перапоўненасць залы. Пра М. Чаргінца — пісьменніка, чалавека, работніка міліцыі — на вечары гаварылі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін і генерал-маёр, ваенны пракурор А. Шлюкаў, А. Сульянаў і С. Законнікаў, У. Жыжэнка і У. Някляеў, М. Герчык і А. Жалязоўскі, У. Гніламёдаў і дырэктар Беллітфонду В. Вільтоўскі і іншыя.**



Фота Ул. КРУКА.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# НЕ САРОМЦЕСЯ ДЭТЭКТЫВАЎ!

**Мушу пісаць ліст, таму што бачу, як марудна выконваецца «Закон аб мовах у Беларускай ССР». У мяне прапанова. Цяпер такі час, што людзі, відаць, стаміўшыся ад палітычнай барацьбы, занятыя эканамічнымі праблемамі, сталі ў доўгія чэргі за.. дэтэктывамі. Мабыць, у гэтым ёсць рацыя, бо дэтэктыў дае нейкую разрадку. Мы ж, беларусы, чамусьці саромеемся выдаваць на беларускай мове кнігі так званага «папулярнага», масавага жанру. Але падумайце, ці шмат куплялі б кніг на рускай мове, калі б на гэтай мове выдаваліся толькі творы рускіх класікаў і сучасных пісьменнікаў? Калісьці я навучыўся чытаць па-польску (не ведаючы як след беларускай мовы) толькі таму, што купляў польскія дэтэктывы. Я вельмі паважаю творы многіх беларускіх пісьменнікаў (сістэматычна чытаю на беларускай мове дзесьці з 1983 г., пачаўшы з твораў Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча) і лічу, што і можна і трэба выдаваць паралельна і класіку, і кнігі «масавага» накірунку. Успомніце, як хутка разышліся кнігі з серый «Замежны дэтэктыў» і «Замежная фантастыка»! Тым больш, што ва ўмовах рыначных адносін трэба неяк выкручвацца.**

**Выпусціце «Тры мушкецёры» ці серыю з кніг Джэймса Чэйза накладам у паўмільёна і паглядзіце, ці будуць яны ляжаць на паліцах. Жыхары рэспублікі вельмі хутка авалодаюць беларускай мовай. А праз пару гадоў пачнуць чытаць і класікаў, таму што прызвычаяцца чытаць па-беларуску. Гэта, канечне, не адзіны шлях да нашага Адраджэння, але вельмі важна ў сучасных умовах.**

**Яшчэ адна заўвага. Трэба больш выдаваць твораў праўдзівых беларускіх гісторыкаў, бо праз праўдзівую гісторыю сваёй Айчыны з'явіцца і любоў да яе. А пакуль «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча выйшла накладам усяго толькі 20 тысяч экземпляраў. Я здолеў набыць яе таму, што загадзя аформіў падпіску. Ведаю многіх, хто так і не змог на яе натрапіць. Тое ж з кнігай Кастуся Тарасава «Память о легендах белорусской старины».**

**Да Адраджэння вядуць многія шляхі, і ўпускаць хоць адзін з іх было б недаравальнай памылкай.**

**В. КІРЫК,**
**інжынер.**

г. Гомель.

# ЗАКОН ПАВІНЕН АБАРАНІЦЬ...

**Прачытаў артыкул Я. Цумарава «Якую культуру абароніць закон?» у «ЛіМе» ад 5.04.91 г. Згодны з аўтарам. Асабліва спадабалася прапанова: «Партыям і грамадскім арганізацыям, якія ставяць на мэце палітычную дзейнасць, забараняецца ў якой бы ні было форме дамагацца ад суб'ектаў культуратворчасці і аб'ектаў культурнай дзейнасці прапаганды класавых і партыйна-палітычных дактрын». Вельмі добра!**

**Але далей ідуць словы, якія я не зусім зразумеў: «Тыя абмежаванні, якія вызначаны вышэй у адносінах да культуратворчай дзейнасці, не распаўсюджваюцца на культурна-асветную дзейнасць грамадзян, калі яна не з'яўляецца асновай або часткай службовай дзейнасці ў дзяржаўных установах культуры».**

**Справа ў тым, што непазбежны канфлікты паміж начальнікамі-камуністамі і падначаленымі - некамуністамі (ці наадварот. Наогул, гэтыя партыі і пункты гледжання ўзяў толькі для прыкладу). Канфлікты, якія датычаць прапаганды розных ідэалогій. Напрыклад, загадчык аддзела культуры райвыканкома (камуніст) патрабуе ад дырэктара ГДК (некамуніста) правесці тэматычны вечар «Слава Великому Октябрю!». Канфлікт!**

**Дырэктар ДК (камуніст) вырашыў правесці вечарыну да сакавіцкага рэферэндуму «Союз нерушимый», а ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці (сябры БНФ) адмаўляюцца ад дапамогі яму. Канфлікт!**

**Дырэктар ЦБС (камуніст) патрабуе ад бібліятэкара (некамуніста) выпісаць часопіс «Политический собеседник» замест «Спадчыны». Канфлікт!**

**Дырэктар бібліятэкі (камуніст) патрабуе ад бібліятэкара (веруючага) правесці мерапрыемства па атэістычным выхаванні. Канфлікт!**

**Такія канфлікты былі заўсёды ў нашай таталітарнай дзяржаве. Але да адмены шостага артыкула Канстытуцыі ўсе былі вымушаны мець двайную мараль: для сябе і для працы. Цяпер жа закон павінен абараніць сумленне кожнага супрацоўніка культустановы!**

**Уладзімір СУХАПАР,**
**бібліёграф.**

г. Брэст.

# ВОСЬ ТАКІЯ ФАКТЫ

**Вымусіў мяне ўзяцца за пяро артыкул члена Саюза журналістаў СССР Л. Царанкова, змешчаны сёлета ў № 3 часопіса «Политический собеседник» пад назвай «Уния была ненавистна народу». Не буду абліваць брудам гэтую пісаніну і гэтага «журналіста», як робіць ён у адносінах да артыкула М. Хаўстовіча «Скасаванне уніі» («ЛіМ» ад 5.10.1990 г.). Але некалькі думак выкажу, бо цяжка чытаць хлусню пра наша мінулае, асабліва сёння, калі ідзе працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў.**

**Л. Царанкоў вельмі абураецца, што М. Хаўстовіч у сваім артыкуле спасылаецца толькі на два факты з гісторыі, распавядаючы пра скасаванне уніі. Але ж сам журналіст наогул не прывёў ніводнага факта ў доказ сваіх думак.**

**Далей. Усіх, хто цікавіцца пытаннем адраджэння нацыі, аўтар адразу аб'явіў «...последователями и идейными учениками предателей Родины» — і не менш! Гэта ўжо сур'ёзнае абвінавачанне, але ж ніводнага прозвішча аўтар не называе. Так што любы, хто зацікавіцца гісторыяй уніі, аўтаматычна залічваецца ў разрад вучняў здраднікаў. Знаёмая песня ўсё яшчэ гучыць...**

**Словам, на Беларусі з'явіўся яшчэ адзін саматужны «гісторык», які на дзвюх старонках часопіса «ПС» здолеў зрабіць некалькі «адкрыццяў» у гістарычнай навуцы. Першае: «...белорусский народ отказывался от унии и переходил в православие без колебаний и поэтому без сопротивления и совершенно добровольно...» Другое «адкрыццё»: «...протестовали против ликвидации унии и присоединения к православию не прихожане, а только униатское духовенство...» І апошняе: «...ни один из императоров не ориентировал деятелей правительства на репрессии в отношении к «непокорным униатам», «...как видно из истории... в таких репрессиях не было никакой нужды». Аднак адкажу гэтаму гісторыку на прыкладзе той жа вёскі Нача, пра якую, дарэчы, ён піша, што: «...не понадобилось принимать в отношении к населению Начи какие-нибудь репрессии...» Цытую архіўныя дакументы.**

**«1797 г. мая 8. — Предписание Павла I минскому губернатору о привлечении к суду крестьян д. Нача за попытку подать императору жалобу.**

**Г-н действительный статский советник и министр губернатор Корнеев. Во время, когда я остановился для ночлегу в д. Наче, жители оной во многом числе мужески и женска пола, собравшись скопом и заговором, в противность законов подавали мне какую-то бумагу в собственные руки. 3 чел. из сего зборища я велел взять капитану-исправнику под караул и отослать к суду, а вам предписываю наблюсти, дабы дело ними немедленно решено было и виновные в страх другим наказаны были на месте преступления.**

**Подлинный подписан собственною е. и. в. рукою тако: Павел».**

**І яшчэ дакумент.**

**«1797 г. мая 12. — Решение Борисовского уездного суда о наказании крестьян д. Нача.**

**По указу е. и. в. Борисовский земский повятовый суд. слушав рапорт борисовского же земского комиссара Винцентия Свентицкого, последовавший по имянному е. и. в. повелению, данному сего мая 8-го дня во время высочайшего шествия в д. Нача, лежащей в Борисовском v., с препровождением крестьян 1-го д. Видрицы Силу Авсеева, 2-го д. Городка Трахима Асташкова да д. Начи Михайлы Иванова к суждению за учиненный ими противу высочайшего е. и. в. персоны скоп и заговор.., судить их по законам и наказать на месте, в страх другим, вследствие которого высочайшего е. и. в. имянного Указа в Борисовском земском повятовом суде определено, не имея надобности впавшим в преступление скопом и заговором Силе Авсееву, Трахиму Асташкову и Михаилу Иванову чинить допросов, а полагаясь на точной силе высочайшего е. и. в. имянного Указа за смелость, что крестьяне вышеупомянутых дерзнули... наказать их кнутом, дав всякому по 31 удар, не вырезав ноздри и не ставя указанные знаки, сослать в каторжную работу в Одессу...»**

**Вось такія факты. Застаецца толькі пажадаць падобным царанковым: пішыце лепей пра цяжкае становішча працоўных на Захадзе. Праз архівы мы гэтую хлусню правяраць не будзем.**

**А. АЛЯХНОВІЧ,**
**краязнаўца.**

г. п. Крупкі.

# УВЕКАВЕЧЫЦЬ НАШУ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ!

**Здавалася б, у беларусаў няма праблем у справе манументальнай прапаганды. На беларускай зямлі стаяць тысячы помнікаў палеглым у другую сусветную вайну, у кожным беларускім горадзе — па некалькі помнікаў праваадыру. Аднак помнікі другой сусветнай вайны, як і помнікі, прысвечаныя рэвалюцыі, грамадзянскай і першай сусветнай войнам, а таксама Айчыннай вайне 1812 года — гэта помнікі, так бы мовіць, нашай агульнай гісторыі. Атрымліваецца так, што на Беларусі няма ніводнага помніка ўласна беларускае гісторыі, а ёсць помнікі гісторыі дзяржаў, у склад якіх уваходзіла Беларусь. А суверэнная Беларусь павінна мець помнікі ўласнай нацыянальнай гісторыі. На маю думку, першым крокам на шляху ўвекавечання нацыянальнай гісторыі мог быць помнік, прысвечаны Тысячагоддзю Беларускай Дзяржаўнасці ў Полацку, а, магчыма, і два такія помнікі, толькі рознага мастацкага вырашэння — у Полацку і Тураве (у горадзе незаслужана забытым). Такі помнік нагадваў бы беларусам і ворагам беларушчыны, што народ наш займае годнае месца ў гісторыі еўрапейскай цывілізацыі, што ён такі ж дзяржаўны народ, як расейцы, немцы ці французы.**

**А чаму б у Мінску не стварыць музей накшталт Пантэона Славы, дзе сабраць галерэю партрэтаў, бюстаў, скульптур выдатных людзей беларускай гісторыі, культуры і пісьменства? Для беларусаў ён стаў бы сімвалам адраджэння нацыянальнай свядомасці.**

**Калі прапановы наконт помніка Тысячагоддзя Беларускай Дзяржаўнасці ў Полацку і Пантэона Славы ў Мінску знойдуць падтрымку ў грамадскасці, то можна было б абвясціць конкурсы на лепшыя праекты. У іх распрацоўцы маглі б удзельнічаць гэтаксама і беларускія мастакі-эмігранты, дойліды і скульптары.**

**У. СКРАБАТУН.**

г. Вентспілс.

# ЯЕ ВІТАЛІ І НА БЕЛАРУСІ

Ці карыстаецца народ якім крытэрыем адбору, калі тую ці іншую падзею ўласнай гісторыі пераўтварае ў нацыянальны сімвал? Ці залежыць гэта ад пазнейшай карыснасці гістарычнага факта, яго жыццяздольнасці? Або ў пэўны момант пачынае дзейнічаць невядомы ірацыянальны чыннік, які ўзнімае да ўсенароднага ўшанавання падзею, якая ў канчатковым выніку спрычынілася да нацыянальнай катастрофы?..

У нейкай ступені да такіх падзей можна аднесці факт прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Яна пратрымалася ў дзеянні ўсяго крыху больш года. У сутнасці сваёй так і засталася нерэалізаванай. І, урэшце, з'явілася непасрэднай прычынай другога і трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, страты дзяржаўнай самастойнасці больш чым на стагоддзе. Але менавіта гэтая Канстытуцыя вось ужо дзвесце гадоў аказвае магічны ўплыў на патрыятычны дух польскага народа, а ў свой час не меншае ўздзеянне мела яна і на беларусаў (прыгадаем, як узнёсла адгукаўся пра яе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у сваіх тлумачэннях да перакладу эпапеі А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш»). Пад штандарам Канстытуцыі змагаліся войскі Тадэвуша Касцюшкі, лучыліся паўстанцы Кастуся Каліноўскага.

Ухвала Канстытуцыі замацавалася ў памяці польскага народа (і амаль цалкам згублена ў іншых народаў Рэчы Паспалітай) як адзін з найслаўнейшых фактаў яго гісторыі, а дзень 3 мая і сёння — святы нацыянальны дзень нашых блізкіх суседзяў. Сутнасць гэтай святасці не паддаецца рацыянальным тлумачэнням. Бо памяццю народа ў нацыянальную каштоўнасць перастворана само глыбіннае ўзрушэнне, якое ён адчуў у той дзень.

Тады, дзвесце год назад, нягледзячы на тое, што Канстытуцыя рыхтавалася ў таямніцы, прадчуванне пераменаў лунала ў грамадстве. Да рэформаў вяла сама логіка Чатырохгадовага сойму. Сойму, які шмат у якіх сваіх ухвалах даказаў жыццяздольнасць і патэнцыю дзяржавы да саманаправы. Усе чакалі... І вось 3 мая ад самага ранку ў Варшаве пачаўся незвычайны рух. З казармаў вырушылі палкі жаўнераў, верхнікаў. На вуліцы высыпаў люд — і заможны, і ўбогі. Выйшлі рамесніцкія цэхі, кожны пад сваёй харугвай, гарадская рада на чале з прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам. Усе рушылі ў бок Замка. І гэта была не проста цікаўнасць. Усюды панавала ліхаманкавае чаканне, прадчуванне, што павінна адбыцца нешта надзвычайнае і нарэшце вырашыць іх лёс. Мяшчане хацелі быць найбліжэй да караля, да сойму, сваёй прысутнасцю сведчылі, што справа ім неабыякавая. Зала Пасольскай ізбы была перапоўнена: у галерэях сядзелі кабеты, на лавах — арбітры — лікам болей за тысячу. Перад маршалкаўскім бар'ерам стаялі князь Язэп Панятоўскі, генерал Галкоўскі, каралеўскі ад'ютант і нямала ўланаў, з супрацьлеглага боку каралеўскі трон быў аточаны афіцэрамі гвардыі.

І вось некалькі хвілін па адзінаццатай у залю ўвайшоў яго каралеўская мосць Станіслаў Аўгуст, Панятоўскі (ураджэнец Волчына, што каля Брэста). Яго прывіталі раднымі галасамі. Адкрыў пасяджэнне маршалак Малахоўскі, адзін з аўтараў Канстытуцыі. Па некалькіх выступах быў адчытаны яе праект. Канстытуцыя абвяшчала вялікую рэформу ўсяго дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Касавалася зыбарная манархія і абвяшчалася манархія спадчынная, што ў часы абсалютызму ўважалі за крок, неабходны для ўмацавання краіны. Канстытуцыя зрэфармавала сойм, скасавала права «ліберум вета», устанавіла «праваВы» ўрад, які складаўся з прымаса і пяці міністраў. Узначальваў яго кароль. Таксама зацвярджаліся правы мяшчан, ухваленыя раней Чатырохгадовым соймам. Дзяржава брала на сябе прававую апеку над сялянамі і абвяшчала вольнасць усім іншаверцам-уцекачам нешляхецкага паходжання. Каталіцтва надалей было пануючым веравызнаннем, але сцвярджалася талеранцыя і ўрадавая апека іншым канфесіям.

Па адчытанні праекта Канстытуцыі пачалася дыскусія. Рэфарматарамі былі прадуманы ўсе хады, каб не дапусціць абструкцыі. У Ізбе быў створаны настрой такога патрыятычнага ўздыму, што выступленні апанентаў губляліся ў бязмежжы аднадушнага жадання рэформы. Кульмінацыяй пасяджэння 3 мая была прысяга Станіслава-Аўгуста.

Неўтаймаваная радасць, пачуццё надзеі на лепшае, прага волі — усё тады вылілася ў агульны шал. Калі ўсе рушылі да касцёла Св. Яна, каб адправіць урачыстае набажэнства, натоўп падхапіў на рукі маршалкаў — Малахоўскага і Сапегу і так іх унёс у храм. Гэта быў дзень грамадзянскага міру, адчування еднасці ўсіх слаёў паспольства. Адбыўся не толькі дзяржаўны пераварот — адбыўся пераварот у мысленні народа. Шляхта самаўласна, дзеля ўратавання айчыны саступіла частку сваіх правоў і прывілеяў мяшчанству. І гэта — пасля дзесяткаў год панавання анархіі. Шляхта дала першы прыклад сваёй ахвярнасці, які пасля неаднойчы паўторыць пад час крывавых паўстанняў за незалежнасць. Ці не ў Канстытуцыі 3 мая, ці, дакладней кажучы, у саміх падзеях 3 мая, тоіцца адна з крыніц сённяшняга польскага патрыятызму?!

Энтузіязм, з якім Канстытуцыя прымалася ў Варшаве, перадаваўся і на іншыя мясцовасці краіны — нават на тыя землі Беларусі, якія пасля першага падзелу адышлі да Расіі. Аршанскі падстароста Ігнацы Амульскі пісаў вядомаму рэфарматару са Шчорсаў (Наваградчына) Яўхіму Храптовічу, аднаму з інспіратараў Канстытуцыі: «У нашым краі нямнога знойдзецца асоб, якім не падабалася б канстытуцыя, нашы суседзі, як чутна, зайздросцяць нам і не могуць надзівіцца, што гэта здарылася так хутка і так прадумана».

Праз некалькі дзён пасля прыняцця Канстытуцыі, 8 мая 1791 года, адзначаліся імяніны Станіслава-Аўгуста. Беларускія прыхільнікі рэформ выкарысталі гэта, каб выказаць сваю радасць з нагоды прыняцця Канстытуцыі. Даваў баль К. Радзівіл, запрасіўшы да свайго палаца ў Варшаве ўсіх аўтараў Канстытуцыі. Былі ўрачыста ілюмінаваны Бярэсце, Гародня, Пінск. На Мінскай ратушы быў змешчаны вершаваны надпіс у гонар аднаго з ініцыятараў Канстытуцыі маршалка Станіслава Малахоўскага, дзе сцвярджалася, што «ўдзячныя нашчадкі» на доўгія гады захаваюць памяць пра сапраўдную дабрачыннасць і грамадзянскасць гэтага дзяржаўнага мужа. У друкарні базыльянаў у Мінску былі перадрукаваны на польскай мове і матэрыялы Чатырохгадовага сойму, і сама Канстытуцыя 3 мая.

Можна было б і скончыць артыкул на гэтым светлым акордзе, калі б не тое, што Канстытуцыя 3 мая канчаткова скасавала дзяржаўную асобнасць Вялікага княства Літоўскага. Прыгадаем, што да ўхвалы Канстытуцыі Рэч Паспалітая была федэрацыяй дзвюх дзяржаў: Кароны і Княства, якія мелі супольнага караля і супольны сойм, але таксама і два асобныя ўрады (асобных гетманаў, канцлераў і г. д.) і вельмі шмат адметных устаноў. Канстытуцыя ж устанавіла адзін супольны ўрад і скасавала мноства беларуска-літоўскіх адметнасцяў. Уся Польшча з моманту прыняцця Канстытуцыі станавілася адзінай дзяржавай. Праўда, на той час гэта было ўжо проста юрыдычнае афармленне таго, што, па сутнасці, здзейснілася значна раней. Трэба акцэнтаваць увагу на тым, што ў падрыхтоўцы Канстытуцыі брала ўдзел таксама і беларуска-літоўская шляхта. І сярод яе — Патоцкі, маршалак вялікі літоўскі, Матушэвіч, берасцейскі пасол. І нават апазіцыя, у якой былі і пасол віленскі Корсак, і пасол ашмянскі Хамінскі, і князь Сангушка, і такая постаць, як Казімір Сапега, маршалак канфедэрацыі літоўскай. Вядома, выступаючы супраць Канстытуцыі, яны больш клапаціліся аб захаванні ўласных прывілеяў, чым пра асобнасць беларуска-літоўскай дзяржавы. Асабліва гэта адчуваецца ў прамове Казіміра Сапегі ў касцёле Св. Яна. Пад час пасяджэння сойму ён выступіў супраць Канстытуцыі. Аднак, калі яна ўсё ж была ўхвалена, згадзіўся на прысягу. І абгрунтоўваў гэта тым, што «неадзінства і ўнутраныя непаразуменні заўсёды былі прычынай бедаў» супольнай дзяржавы. І таму ён далучаецца да большасці, каб самому не быць прычынай падзелу краіны на варожыя станы.

Дык чым жа была Канстытуцыя 3 мая для Беларусі? Моцным акордам самачыннай паланізацыі, што пачалася ў XVI стагоддзі, узмацнілася на канцы XVIII і працягвалася (з уздымамі і затуханнямі) да XX ст.? А, можа, калі б не падзелы, калі б першая ў Еўропе і першая на беларускіх землях Канстытуцыя была рэалізавана, то гэта паскорыла б і наша нацыянальнае самаўсведамленне? Пытанні, якія патрабуюць сур'ёзнага аргументаванага адказу. І не ў кароткім юбілейным артыкуле, а ў навуковым даследаванні.

Святлана ГРАЧУХІНА,
Адам МАЛЬДЗІС.



# У ГОНАР ВАЛЬНАЛЮБНАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Гісторыя Рэчы Паспалітай — гэта і наша гісторыя. Таму зусім слушна будзе беларусам адзначыць 200-годдзе Канстытуцыі 3 мая 1791 года, якой былі зацверджаны вялікія прагрэсіўныя змены ў краіне, своеасаблівая «перабудова». Праўда, супраць «патрыятычнай партыі», якую стварыў прагрэсіўны шляхецка-буржуазны блок, паўсталі рэакцыйныя магнаты. Канфедэраты звярнуліся да Расіі па дапамогу. Зладзейства закончылася Трэцім падзелам Рэчы Паспалітай (1795).

Як водгук тых узнёслых і трагічных падзей высіцца на ўскрайку мястэчка Лявонпаль у Мёрскім раёне белая калона—арыгінальны помнік вальналюбнай Канстытуцыі. А ўзвёў калону 22 жніўня 1791 года ўладальнік Прыдзвіння граф Ян Мікалаевіч Лапацінскі, сын пісара Вялікага княства Літоўскага. «Лявонпальская калона» як помнік архітэктуры чакае свайго вяртання ў цывілізаваны свет. На ёй вісіць шыльда, што яна «ахоўваецца дзяржавай». Але пакуль што — толькі прыгожым гонкім борам. Лявонпальцы думаюць выратаваць не толькі Калону Канстытуцыі, але і адрадзіць само мястэчка, стварыць тут культурна-гістарычны цэнтр «Сядзіба Лапацінскіх», каб адгукнуліся нашчадкі пісара Вялікага княства з усіх канцоў свету.

Сяргей ПАНІЗНІК.
Фота аўтара.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ НЕ МАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ

На экранах кінатэатраў Масквы і Падмаскоўя з поспехам прайшлі прэм'ерныя паказы новай кінакарціны «Мір пакідаю вам...», створанай творчай групай рэжысёра І. Жукоўскай на Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў.

Стужка прысвечана памяці беларускай дзяўчыны Асі Дзенісенкі, якая ў 1958 годзе прыехала працаваць медыцынскай сястрой у Дагестан і праз пяць гадоў загінула ў гарах — у дарозе да хворых. Чалавечнасць не мае нацыянальнасці, — гэту ісціну пацвердзіла Ася сваім кароткім жыццём, назаўсёды пакінуўшы памяць пра сябе сярод суровых горцаў Дагестана.

Сяргей КАСТЫРКА.
г. Масква.

### ЛІТАРАТУРА, КРЫЗІС І...

«Сучасная літаратура на фоне грамадскага крызіса» — пад такой назвай адбылася навукова-творчая канферэнцыя, арганізаваная саветам па крытыцы і літаратуразнаўстве Саюза пісьменнікаў СССР сумесна з Інстытутам сусветнай літаратуры імя М. Горкага Акадэміі навук СССР.

У яе рабоце прынялі ўдзел і прадстаўнікі Беларусі, вядомыя крытыкі і літаратуразнаўцы — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР В. Каваленка і загадчык аддзела выданняў і тэксталогіі гэтага інстытута М. Мушынскі.

Канферэнцыю яе арганізатары разглядаюць як адзін з этапаў у падрыхтоўцы да IX з'езда пісьменнікаў СССР.

### ЧАСОПІС ФАНТАСТЫКІ... ПЕРШЫ Ў КРАІНЕ

Мікалай Арэхаў, Яўген Дрозд, Юрый Брайдэр, Мікалай Чадовіч, Наталля Новаш, Аляксандр Патупа... Калі вам гэтыя прозвішчы не шмат гавораць, дык у аматараў фантастыкі яны, як кажуць, даўно «на слыху». І не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Справа ў тым, што згаданыя аўтары, гэтаксама як і некаторыя іншыя, сваімі творамі засведчылі: ёсць і паспяхова развіваецца свая, беларуская школа фантастыкі. Хоць, прызнацца, да нядаўняга часу прабіць дарогу да чытача ёй было не так і проста.

Паўтараем: да нядаўняга, бо цяпер на шляху беларускай фантастыкі, нарэшце, запалена зялёнае святло. Мінскае літаратурна-выдавецкае агенцтва «Эрыдан» пачало выпускаць спецыяльны часопіс «Фантакрыммега», перыядычнасцю адзін раз у два месяцы, пачатковым тыражом сто тысяч паасобнікаў.

Цікава, што гэта ўвогуле першы часопіс адпаведнага профілю ў краіне. Зразумела, што свае першыя старонкі ён прадставіў беларускім аўтарам, хоць і не абмяжоўваецца рэспубліканскімі «рамкамі».

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12